# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 5 (9) Май 1929 г. № 5 (9)


ЗЬМЕСТ



**Вітаем найвышэйшы Орган Савецкай улады Беларусі—**

**IX УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД САВЕТАЎ.**

# Да IX Усебеларускага зьезду саветаў

VIII зьезд саветаў Беларусі (5—13 красавіка 1927 г.) закончыў працэс фармаваньня Савецкай Беларусі, як часткі Савецкага Саюзу. На гэтым зьезьдзе адбылося: а) афармленьне пастаноў ураду БССР і РСФСР аб аб'яднаньні ў складзе Беларусі ўсіх тэрыторый з большасьцю беларускага насельніцтва, і, такім чынам, была падведзена база пад далейшае гаспадарчае і нацыянальна-культурнае сацыялістычнае будаўніцтва Беларусі; б) была зацьверджана Канстытуцыя Беларусі, чым зьезд аформіў дзяржаўна-праўнае становішча Савецкай Беларусі ў складзе СССР; урэшце—в) зьезд даў дырэктывы аб асновах плянавага будаўніцтва: у галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і народнай асьветы, выходзячы з неабходнасьці скарыстаньня ўсёй матар'яльнай базы аб'яднанай Беларусі і ўцягненьня ў гаспадрча-дзяржаўную і культурную працу ўсіх працоўных.

Усё гэта надало VIII зьезду Саветаў Беларусі значэньне рубяжу, якім закончыўся папярэдня-падрыхтоўчы пэрыод і ад якога пачаўся новы пэрыод—пэрыод плянавага сацыялістычнага будаўніцтва.

Надзвычайна важнае значэньне для разгортваньня далейшай працы як у Савецкай Беларусі, так і ва ўсім Савецкім Саюзе мае XV зьезд УсеКП(б), які адбыўся ў сьнежні 1927 году. XV зьезд УсеКП(б) дакладна сфармуляваў задачы саветаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва і ў барацьбе супроць капіталізму, а таксама вызначыў шлях далейшай барацьбы за сацыялізм.

На падставе дасягнутых ужо посьпехаў XV зьезд УсеКП(б) адзначыў, што Савецкі Саюз прыступіў і выконвае разгорнутую праграму сацыялістычнага будаўніцтва.

Галоўныя пункты гэтай праграмы—гэта: па-першае—задача індустрыялізацыі краіны, пры чым у аснову індустрыялізацыі кладзецца выраб сродкаў вытворчасьці, а таксама сацыялістычная рацыяналізацыя і зьніжэньне сабекошту; па другое—узмацненьне плянава кіруючай ролі сацыялістычнага сэктару народнай гаспадаркі ў адносінах да сельскай гаспадаркі. Тут упяршыню была пастаўлена са ўсёй рашучасьцю праблема аб'яднаньня і пераарганізацыі дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак праз калектывізацыю іх. Выкананьне гэтай задачы было пастаўлена ў сувязь з неабходнасьцю далейшага рашучага наступленьня на кулака, апіраючыся на бядняцка-серадняцкія і батрацкія масы вёскі; урэшце, трэцяе—гэта пытаньні культурнага будаўніцтва і барацьбы з бюрократызмам. Зьездам было пастаўлена пытаньне аб культурнай рэвалюцыі як неабходнай умове будаўніцтва сацыялістычнай грамады. Зьезд таксама вызначыў, што толькі праз уцягненьне ў справу сацыялістычнага будаўніцтва шырачайшых мас працоўных мы зможам вырашыць пастаўленыя задачы і што супроць бюракратызму, як зьлейшага ворага працоўных, які адрывае дзяржаўна-гаспадарчы апарат ад масаў, трэба весьці самую рашучую барацьбу.

Усе пастановы гэтага зьезду—гэта ёсьць пастановы аб наступленьні сацыялізму і аб далейшай рашучай барацьбе супроць капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі.

Калі мы сёньня падыходзім да неабходнасьці даць ацэнку нашай працы за мінулыя два гады пасьля VIII зьезду Саветаў БССР, то нам трэба ўлічыць, **ш т о** зроблена ва ўмовах Савецкай Беларусі дзеля разгортваньня плянавага сацыялістычнага будаўніцтва на падставе дырэктыў XV-га зьезду УсеКП(б).

Я ня буду спыняцца на лічбавых даных, якія могуць служыць адказам на гэта запытаньне. Лічу, што кожны чытач «Саветаў Беларусі» павінен добра пазнаёміцца з кнігай «Контрольные цифры народного

хозяйства и культуры БССР на 1928-29 хоз. год», у якой ён знойдзе патрэбныя матар'ялы. Я падам тую агульную ацэнку вынікаў нашай працы, што даў XII зьезд КП(б)Б, які адбыўся 5—16 лютага б. г. Там сказана наступнае: «XII зьезд КП(б)Б канстатуе, што ў выніку правільна праводзімай КП(б)Б лініі работы ў поўнай адпаведнасьці з асноўнай палітычнай лініяй і дырэктывамі XV зьезду ЎсеКП(б) і XI зьезду КП(б)Б мы дабіліся значнага ўздыму ўсяе народнае гаспадаркі Беларусі. У наяўнасьці: значны рост удзельнае вагі прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы пры адначасовым павышэньні ролі буйнай прамысловасьці; уздым сельскай гаспадаркі, аднак, ідзе яшчэ яўна невыстарчальным тэмпам; рост калектывізацыі і каапэраваньня сялянскае гаспадаркі; агульнае ўзмацненьне і рост сацыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы пры пасьпяховым наступленьні на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі; няўхільны рост матар'яльнага і культурнага росту рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. У цэлым—умацаваньне дыктатуры пралетарыяту. Усе гэтыя посьпехі былі магчымы дзякуючы правільнай ленінскай лініі ў гаспадарчым будаўніцтве, падтрыманьню гэтай лініі з боку рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства».

Такая ацэнка зроблена на падставе самага ўважлівага вывучэньня ўсіх матар'ялаў, што характарызуюць становішча і працэсы разьвіцьця нашай гаспадаркі. XII зьезд КП(б)Б улічыў ня толькі посьпехі, ён падрабязгова разгледзеў таксама і нашы цяжкасьці і недахопы ў працы. Ня гледзячы на тое, што гэтыя цяжкасьці і недахопы ў нас ёсьць і часамі прымаюць досыць гострую форму,—зьезд прызнаў, што мы ў выніку нашай працы маем агульны рост гаспадаркі і культуры Савецкай Беларусі. На падставе гэтай ацэнкі мы павінны са ўсёй рашучасьцю адкінуць закіды нашых клясавых ворагаў, быццам Савецкі Саюз ў цэлым і Савецкая Беларусь у прыватнасьці папалі ў паласу невырашымых гаспадарча-палітычных цяжкасьцяў, якія арганічна вынікаюць з факту існаваньня савецкай ўлады. Мы ведаем цану такім закідам: яны ставяць сваёй мэтай барацьбу супроць саветаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту.

На падставе гэтай ацэнкі мы павінны весьці рашучую барацьбу супроць хістаньняў і ў нашых шэрагах. Цяжкасьці працы сацыялістычнага будаўніцтва часта выклікаюць хістаньні сярод працоўных і нават сярод паасобных сяброў Камуністычнай партыі. Пытаньні аб тэмпе індустрыялізацыі, аб узаемаадносінах і ўдзельнай вазе цяжкай і лёгкай прамысловасьці, аб калектывізацыі, аб наступленьні на кулака—гэта ёсьць тыя пытаньні, вырашэньне якіх патрабуе асаблівай загартаванасьці і таму выклікае хістаньні з боку няўстойлівых элемэнтаў. Для кожнага партыйнага і беспартыйнага працоўнага гораду і вёскі павінна быць ясна, што толькі шлях, вызначаны XV зьездам УсеКП(б), зьяўляецца адзіным правільным і пэўным шляхам да перамогі сацыялізму, да хутчэйшага зьнішчэньня беднасьці і някультурнасьці. Хістаньні ў нашых шэрагах паслабляюць нашу сілу. Вось чаму перамога ў барацьбе за сацыялізм, вырашэньне ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва патрабуюць самай рашучай барацьбы супроць хістаньняў ў нашых шэрагах, супроць правага ўхілу і супроць прымірэнцтва з ім.

На падставе гэтай ацэнкі мы можам падыйсьці таксама да вызначэньня задач далейшай працы. Мы жывём сучасным і будучым, а ня мінулым, таму і на нашых зьездах мы заглядаем у мінулае толькі для таго, каб праверыць, як выконваюцца папярэднія дырэктывы, каб праверыць адпаведнасьць гэтых дырэктыў патрэбам жыцьця, каб выкарыстаць вопыт мінулай працы і барацьбы, каб выправіць памылкі і г. д.

Галоўная наша ўвага павінна быць накіравана на тое, каб паставіць перад сабой новыя задачы—каб прысьпешыць тэмп сацыялістычнага будаўніцтва. IX Усебеларускі Зьезд Саветаў павінен адыграць важную ролю ў гэтым сэнсе. «Пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры БССР»—вось ударнае пытаньне, навакол якога будзе і павінна быць сканцэнтравана ўвага IX зьезду саветаў Беларусі. Гэты плян складзен на падставе папярэдніх вынікаў сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі і з захаваньнем гэнэральнай лініі XV зьезду ЎсеКП(б) і XII зьезду КП(б)Б. Гэты плян закладвае моцную падваліну пад сацыялістычную Беларусь. Гэты плян складзен з улічэньнем вялікай напружанасьці і цяжкасьці, што будуць пры яго выкананьні. XII зьезд КП(б)Б, надаючы надзвычайна важнае значэньне выкананьню 5-гадовага пляня, «заклікае ўсю партарганізацыю мабілізаваць увагу, усю сілу і ўвесь энтузіазм партыі і рабочае клясы на задачах гаспадарчага будаўніцтва». З гэтага відаць, што аднэй з асаблівасьцяў 5-гадовага пляну, які ўносіцца на зацьверджаньне IX Усебеларускага зьезду саветаў, зьяўляецца залежнасьць яго выкананьня ад удзелу і працы над выкананьнем самых шырокіх мас працоўных. Нельга, напрыклад, правесьці ў жыцьцё пастановы аб усеагульным навучаньні бяз самага шырокага ўдзелу ў гэтай працы масы ўсёй савецкай грамадзкасьці. Таксама мерапрыемствы па ўзьняцьці ўраджайнасьці і перабудове сельскай гаспадаркі патрабуюць масавасьці. Рацыяналізацыя прамысловасьці, узьняцьце вытворчасьці працы, зьніжэньне сабекошту—усё гэта патрабуе ўдзелу масаў. Барацьба супроць шкодніцтва, зьнішчэньне бюракратызму і г. д. таксама патрабуюць удзелу ўсёй масы працоўных.

IX Усебеларускі зьезд саветаў павінен уважліва разгледзець і зацьвердзіць 5-гадовы плян, як падваліну сацыялістычнай Беларусі, а таксама прыняць усе меры да яго выкананьня. Галоўнай з гэтых мер, як відаць з вышэйсказанага, зьяўляецца мабілізацыя ўвагі ўсіх працоўных навакол выкананьня намечанага пляну, самая шырокая папулярызацыя пляну ў масах працоўных. Пасьля IX зьезду саветаў 5-гадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР павінен стаць настольнай кнігай кожнага праматнага грамадзяніна Беларусі; аб гэтым пляне павінны ведаць усе працоўныя. Сьвядомы ўдзел працоўных у выкананьні гэтага пляну будзе найлепшым паказальнікам, што працоўныя масы Беларусі бадзёра ідуць уперад пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, і што хістаньняў у нашых шэрагах няма і ім не павінна быць месца.

Нас кліча будучыня, і IX зьезд павінен працаваць з упэўненасьцю ў перамозе сацыялізму і з энтузіазмам пераможнікаў заклікаць на барацьбу за будучыню, за сацыялізм.

А. Чарвякоў.

# Роля Саветаў у арганізацыі зьберажэньняў народных сродкаў на індустрыялізацыю краіны.

Бясспрэчна і зразумела тое, што дзяржава саветаў за апошнія гады дасягнула вялізарных посьпехаў ў справе гаспадарчага будаўніцтва як у горадзе, так і на вёсцы. Гэта выражаецца ў росьце буйнай прамысловасьці і транспарту, у пашырэньні электрыфікацыі краіны, узмацненьні і палепшаньні гарадзкое гаспадаркі. У галіне сельскай гаспадаркі нашы посьпехі выражаюцца ў пашырэньні пасеваў тэхнічных культур, у пераходзе сялянства на новыя, палепшаныя спосабы апрацоўкі палёў, у пашырэньні справы машынізацыі сельскае гаспадаркі, уздыме зьнізу і зьверху калгаснага будаўніцтва, у шырокім разьвіцьці сельска-гаспадарчай кааперацыі і г. д.

Аднак, наша пасьпяховае гаспадарчае будаўніцтва і ў горадзе і на вёсцы, пры нашай яшчэ беднасьці, зьвязана з вялікі цяжкасьцямі. Нам яшчэ не ўдалося зьліквідаваць голад прамысловых тавараў. Хоць наша прамысловасьць і шпарчэй расьце ў параўнаньні з сельскай гаспадаркай, аднак прадукцыі прамысловасьці яшчэ далёка не хапае для поўнага задаволеньня патрэбаў усяго насельніцтва. Разам з гэтым, рост прамысловасьці гарадоў з кожным годам усё больш і больш павялічвае патрабаваньне на сельска-гаспадарчую сыравіну і прадукты харчаваньня, якога не хапае з прычыны недастатковага тэмпу разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Дзеля таго, каб забясьпечыць пасьпяховае гаспадарчае будаўніцтва, партыя і савецкая ўлада праводзяць шырокія мерапрыемствы па індустрыялізацыі нашай краіны. Нам усім добра вядома, што ад царскай ўлады наогул і пасьля адбыўшыхся войн і акупацый нам засталася слабая прамысловасьць і яшчэ слабейшая, больш адсталая сельская гаспадарка. Каб пасьпяхова будаваць і пабудаваць сацыялізм, нам трэба ў будаўніцтве *дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны*; нам трэба разьвіваць нашу прамысловасьць па апошнім слове тэхнікі.

*Толькі вырашыўшы гэту задачу, можна дабіцца поўнай незалежнасьці ад тэхнікі і экономікі капіталістычных дзяржаў.* Некаторыя думаюць, што можна зьнішчыць недахоп тавараў, купляючы іх заграніцай. Зразумела, што гэты шлях вельмі просты. Напрыклад, можна шмат купіць паркалю і розных дробных тавараў сёньнешняй патрэбы за тыя сродкі, якія мы затрачваем на Асінбуд і розныя іншыя фабрыкі і заводы, якія мы будуем. Але-ж гэта азначала-б, што мы заўжды былі-б у залежнасьці ад замежных капіталістычных дзяржаў і ніколі ня мелі-б сваіх тавараў у належнай колькасьці для патрэбаў насельніцтва нашай дзяржавы. Таму партыя вызначыла правільныя шляхі індустрыялізацыі, шырокага прамысловага будаўніцтва. Разам з гэтым, партыя і савецкая ўлада ўказываюць на неабходнасьць рашучага і шырокага ўздыму і разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Нам трэба сельскую гаспадарку *паставіць на найвышэйшую арганізацыйную і тэхнічную ступень*, машынізіраваць яе, весьці найлепшую апрацоўку зямлі, узьняць ураджайнасьць. Толькі гэткім шляхам *мы сумеем зьліквідаваць таварасыравінны голад* і забясьпечыць пасьпяховае будаўніцтва народнай гаспадаркі савецкай дзяржавы.

Каб вырашыць усе задачы індустрыялізацыі (а гэта неабходна), нам трэба ўнутры сваёй краіны *мабілізавац і паставіць на справу ўсе сілы і сродкі* ўсяго насельніцтва. Перш за ўсё на індустрыялізацыю патрэбны вялікія сродкі. Прыбыткі дзяржавы складаюцца ў нас з падаткаў і прыбыткаў ад дзяржаўнай маемасьці і прадпрыемстваў. Гэтыя сродкі ідуць па бюджэту на гаспадарчае і культурнае будаўніцтва, на патрэбы кіраўніцтва і абароны краіны. Але гэтых сродкаў не хапае, каб поўнасьцю выканаць пляны сацыялістычнага будаўніцтва, таму *мы павінны знайсьці сродкі ўнутры краіны, сярод насельніцтва* праз пазыкі і зьберажэньні, асабліва маючы на ўвазе тое, што капіталістыя нам грошай не дадуць. Савецкі ўрад правёў шэраг пазык, якія вельмі карысны як для дзяржавы, так і для самога насельніцтва—трымаццеляў аблігацый, а таксама вядзе рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю за рэжым экономіі ва ўсім кіраўніцтве і будаўніцтве. Нам трэба дабіцца таго, каб ня толькі захоўвалася і накаплялася дзяржаўнае багацьце, але каб кожны рабочы, селянін і служачы быў эканомен, ашчадзен у сваім асабістым быту і гаспадарцы. Гэтыя прыватныя зьберажэньні *павінны быць перададзены дзяржаве ў ашчадную касу, на аблігацыю на агульную карысьць* і захаваньне з прыбыткамі сродкаў трымаццеля кніжкі ці аблігацыі. Кожны рабочы, кожны селянін і ўся маса працоўнага насельніцтва павінны ведаць, што *чым больш сродкаў будзе знаходзіцца ў пазыках, у касах зьберажэньняў нашай дзяржавы, тым лягчэй будзе савецкай уладзе праз індустрыялізацыю гаспадаркі перамагчы цяжкасьці ў сацыялістычным будаўніцтве.* А між тым, у частцы насельніцтва грошы накапліваюцца, ляжаць бяз усякай карысьці і часта, асабліва ў вёсцы, прападаюць ад пажараў, стыхійных няшчасьцяў, крадзяжу і небясьпечнага прыватнага захаваньня. Грошы трэба захоўваць толькі ў ашчадных касах, таму, перш за ўсё, што ад гэтага карысьць дзяржаве, а, па-другое, зьберажэньне дае процантныя прыбыткі, грошы будуць цэлы, бо за іх адказвае дзяржава. Напрыклад, аблігацыі пазык даюць шмат выгад і льгот насельніцтву: яны не абкладваюцца ніякімі падаткамі ці зборамі, на іх налічваюцца проценты, а таксама можа здарыцца грашовы выйгрыш. Мы маем вялізарныя посьпехі ў рэалізацыі пазык, мы маем міліённыя ўклады ў ашчадныя касы народных зьберажэньняў рабочых, служачых і перадавога сялянскага актыву. Але гэтага мала, нам трэба мець усе зьберажэньні ў руках дзяржавы на справу сацыялістычнага будаўніцтва, на карысьць усяго працоўнага насельніцтва. Бяда наша ў тым, што *яшчэ недастаткова асьвядомлены шырокія масы працоўнага насельніцтва (асабліва вёска) аб пазыках і касах ашчаднасьці.*

У далёкіх, глухіх кутках нашай вёскі не дастаткова, а часам зусім насельніцтва ня ведае самых простых правіл аб ашчадных справах; часта жыхары вёскі ня ведаюць таго, што грошы ў ашчадных касах захоўваюцца ў цэласьці, даюць прыбытак укладчыку, які можа іх

узяць у любы час і скарыстаць на свае гаспадарчыя або культурныя патрэбы; ня ведаюць таго, што савецкія законы строга захоўваюць тайну ўкладаў ў ашчадную касу і што гэтыя ўклады не падлягаюць ніякім зборам, ніякім падаткам—зьяўляюцца поўнай уласнасьцю ўкладчыка; ня ведаюць аб усіх тых льготах і дармавых парадах, якія даюцца ўкладчыкам ў ашчадныя касы. Мы маем шэраг выпадкаў, калі селянін, служачы і нават рабочы, купіўшы ў парадку кампанейскіх прапаноў аблігацыю, праз некалькі дзён яе прадае без належнай патрэбы і грошы захоўвае бяз усялякай карысьці або збывае іх бяз толку і эканоміі—часта на п'яныя гулюшкі. Усё гэта мы маем ад таго, што палітыка партыі і савецкай улады ў справе пазык і кас ашчаднасьці яшчэ недастаткова саветамі ў іх практычнай дзейнасьці ўглыблена ў шэрагі народных мас гарадоў і вёскі, асабліва ў далёкіх куткох адсталай вёскі. Гарадзкія і сельскія саветы, местачковыя саветы справу пазык і зьберажэньняў яшчэ не праводзяць штодзенна, не правяраюць і не падагульваюць у плянавым парадку, а так сабе—робіцца ад выпадку да выпадку—па кампанейску. Гэта трэба прызнаць са ўсёй шчырасьцю. Неабходна ведаць кожнаму работніку, што задачы сацыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыі краіны диктуюць неабходнасьць удзяляць максімум увагі з боку саветаў справе ажыцьцяўленьня ўнутраных зьберажэньняў: пазыкам, касам ашчаднасьці, рэжым эканоміі і г. д. Пытаньні з гэтай галіны савецкай працы павінны заняць належнае, перадавое месца ў штодзеннай масавай і практычнай рабоце ўсіх саветаў.

Трэба шырока разгарнуць растлумачальну юпрацу за ўкладаньне насельніцтвам сродкаў зьберажэньня ў касы ашчаднасьці, за трыманьне аблігацый пазык на руках да канчатковых тэрмінаў дзяржаўных пазык. Роля саветаў у гэтай справе, як і ва ўсіх галінах будаўніцтва, надзвычайна вялікая. Саветы Беларусі, разам са ўсёй савецкай грамадзкасьцю, павінны са ўсёй рашучасьцю весьці рэжым эканоміі ў скарыстаньні дзяржаўных сродкаў, зрабіць усе захады і ўжыць усе законныя сродкі да шырокай арганізацыі і замацаваньня справы зьберажэньняў і пазык, як неабходных мерапрыемстваў сацыялістычнага будаўніцтва.

Паляпшаецца эканоміка, паляпшаецца культура ў быту працоўных мас, але-ж ёсьць яшчэ шмат цяжкага і шкоднага, як перажыткаў мінулага. Каму не вядомы такія зьявішчы, як п'янства, хуліганства, растраты, псота дзяржаўнай і грамадзкай маемасьці, псота міліёнаў пудоў хлеба на самагонку, траты зьберажэньняў на вясельлі, хрэсьбіны, рэлігійныя сьвяты, дзікія куцяжы і г. д. і г. д. Са ўсім гэтым злом трэба весьці рашучую барацьбу па лініі рэжыму эканоміі і сьмелага рашучага перабудаваньня быту, асабліва на вёсцы, дзе стары гнілы быт мінулага мае яшчэ досыць глыбокія карэньні. Пры апошніх перавыбарах саветаў выбрана жанчын у саветы у шэсьць разоў больш, чым гэта было раней. Нашы саветы маюць у асобе жанчын новыя сьвежыя сілы грамадзкіх работнікаў. Гэтыя сілы павінны быць выкарыстаны саветамі са ўсёй уважлівасьцю ва ўсёй працы і асабліва ў працы па перабудове быту, выводзячы яго на новы, на савецкі шлях, а таксама ў справе арганізацыі і захаваньні народных зьберажэньняў на карысьць індустрыялізацыі, на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

**А. Хацкевіч.**

---

# Аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы работнікаў нізавога савецкага апарату.

Аднэй з грунтоўнейшых прычын, па якіх нашы нізавыя органы—саветы слаба яшчэ працуюць, зьяўляецца надта слабая кваліфікацыя пастаянных работнікаў саветаў: старшынь, намесьнікаў іх і сакратароў, выкліканая тым, што склад работнікаў Саветаў даволі часта мяняецца па розных прычынах на працягу выбарнага паўнамоцтва, а яшчэ больш пры перавыбарах Саветаў. Так, напрыклад, за апошнюю выбарчую кампанію склад старшынь, і сакратароў Саветаў адноўлен да 35 проц. Такім чынам, 35 проц. пастаянных работнікаў недастаткова ведаюць практычную работу саветаў. Зусім зразумела, што без падрыхтоўкі гэтае часткі работнікаў Саветаў нельга забясьпечыць далейшае ажыцьцяўленьне працы Саветаў. Аб гэтым гавораць самі работнікі Саветаў: «выбраць для работы нас выбралі, але ніхто да гэтага часу ня прымае мер, каб навучыць, як нам трэба працу весьці» (Расонскі раён, Полаччына).

І сапраўды, выканкомам безадкладна трэба правесьці цэлы шэраг мерапрыемстваў, дапамагаючых уздыму кваліфікацыі работнікаў Саветаў, асабліва тае часткі з іх, якая першы раз абрана на практычную работу ў саветы. Ажыцьцяўленьню гэтай задачы—падрыхтоўкі работнікаў Саветаў, у некаторай ступені дапамогуць тыя каротка-тэрміновыя нарады-курсы, якія намечана правесьці па Саветах для ўсіх членаў саветаў (праграма надрукована ў № 4 (8) дадатку да газэты «Савецкая Беларусь»—«Саветы Беларусі») і па раёнах—для старшынь і сакратароў саветаў (праграма разаслана РВК). Калі на мясцох аднясуцца з патрэбнай увагаю і забясьпечаць гэтыя нарады-курсы добрымі кіраўнікамі, дык, ня гледзячы на каротка-тэрміновы характар іх, можна будзе мець добрыя вынікі ў сэнсе азнаямленьня як усяго складу членаў перавыбраных саветаў, так і сталых работнікаў саветаў з іх правамі, абавязкамі, а таксама і з формамі работы савету.

Для набыцьця больш шырокага практычнага вопыту работы ў савеце патрабуецца арганізацыя і правядзеньне доўга-тэрміновых курсаў. Каб гэтыя курсы маглі даць працаўнікам саветаў больш-менш дастатковую практычную падрыхтоўку, а таксама, каб апраўдваліся грашовыя затраты на іх арганізацыю і правядзеньне, неабходна разьлічыць праграму курсаў ня менш, як на месячны тэрмін; на наш погляд, гэтыя курсы лепш будзе праводзіць у акругах, а не ў раёнах. Арганізацыя курсаў у акрузе дасьць большую магчы-

масьць лепш забясьпечыць курсы лектарскімі сіламі, а курсантаў падручнікамі і іншымі матар'яламі. Гаспадарчае абслугоўваньне курсаў абыдзецца таксама таньней, калі яны будуць у адным мейсцы (інтэрнат, харчаваньне, кухоннае абсталяваньне і інш.). І калі аддаваць перавагу раённым курсам за тое, што імі можна ахапіць большую колькасьць работнікаў саветаў, дык гэта перавага поўнасьцю траціцца з боку якасьці работы і гаспадарчых інтарэсаў.

Між тым на мясцох ёсьць імкненьне абмежавацца правядзеньнем толькі раённых каротка-тэрміновых курсаў для падрыхтоўкі старшынь і сакратароў. На гэты пункт погляду стаў Магілёўскі Акрвыканком, прызнаўшы мэтазгодным праводзіць дзесяцідзённыя раённыя курсы. Усе матывы АВК аб тым, што акруговыя месячныя курсы перашкодзяць вясеньняй і асеньняй пасяўным кампаніям, вучотнай рабоце па сельгас. падатку не зьяўляюцца дастатковаю падставаю для таго, каб аддаць перавагу каротка-тэрміновым раённым курсам перад акруговымі з большаю праграмаю.

Што трэба для забясьпечаньня найлепшых умоў для работы курсаў у сэнсе ўсваеньня курсантамі праграм і бесьперабойнасьці працы?

Перш за ўсё патрэбна вызначаць тэрмін правядзеньня курсаў у такую пару, якая не супадае з работаю Саветаў па правядзеньню такіх кампаній, як пасяўныя, вучот аб'ектаў абкладаньня і г. д. Апрача гэтага, трэба ўлічваць і тое, што адкладаць правядзеньне курсаў на доўгі час пасьля перавыбараў нельга, бо гэта будзе шкодзіць толькі рабоце саветаў. Нельга, напрыклад, аднесьці курсы да насгупаючае зімы, бо гэта азначала-б, што новы склад работнікаў саветаў—старшыні і сакратары, амаль што цэлы год прымушаны будуць весьці працу саветаў без практычнага тэорэтычнага вопыту, чаму і праца іх будзе значна адставаць.

Ня менш важнаю ўмоваю для пасьпяховасьці работы курсаў зьяўляецца дакладны падбор выкладчыкаў на курсах. Практыка мейсц за мінулыя гады ў гэтай справе паказала, што склад выкладчыкаў курсаў часта мяняецца нават па адных і тых жа комплексах. Для карысьці справы трэба, каб колькасьць выкладчыкаў адпавядала ліку комплексаў, а з другога боку, неабходна дамагчыся стабілізацыі складу вылучаных выкладчыкаў на ўвесь час работы курсаў.

Асабліва вялікае значэньне для ўсваеньня праграм курсантамі мае ўжываньне лепшых мэтадаў выкладаньня на курсах. Пры правядзеньні курсаў у мінулыя гады заўважана, што слабае ўсваеньне было там, дзе практыкавалася выключна лекцыйная сыстэма выкладаньня, і лепшае там, дзе работа вялася ў форме лекцыі-гутаркі, у форме пытаньняў—адказаў, або ў форме гурткавой прапрацоўкі тэмы. Каб не дапусьціць шкодных памылак і ўстанавіць некаторую аднастайнасьць у справе прыстасаваньня самых лепшых мэтадаў работы на курсах, карысна пэрад пачаткам работы курсаў правесьці нараду па гэтаму пытаньню ўсіх выкладчыкаў, а праз некаторы час праверыць на паўторнай нарадзе—наколькі апраўдваюцца практыкуемыя мэтады выкладаньня. Надта карысна пасьля заканчэньня таго ці іншага комплексу правесьці канфэрэнцыю для праверкі ўсваеньня курсантамі прапрацованага комплексу.

У значнай меры будзе страчана карысьць ад курсаў, калі на іх будзе давацца слухачам выключна тэорыя. Між іншым, курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нізавых савецкіх работнікаў БССР у мінулыя гады адмоўным бокам мелі тое, што тэорыя амаль што зусім ня ўвязвалася з практыкаю. Пры правядзеньні адпаведных курсаў у акругах у гэтым годзе належыць аддаць значную ўвагу арганізацыі практычнай работы курсантаў па савецкаму будаўніцтву.

Напрыклад, у часе прапрацоўкі комплексу «Арганізацыйна-масавая праца савету» трэба практычна зрабіць: а) скласьці плян работы савету на тры м-цы; б) правесьці паказальнае пасяджэньне пленуму, прэзыдыуму савету (вызначэньне парадку дню, падрыхтоўка дакладу да парадку дню, падрыхтоўка праэктаў рэзалюцый, практычна паказаць самы працэс пасяджэньня); в) практычна і відавочна паказаць мэтады работы камісій пры с-с. (правесьці выдзеленай групай курсантаў абсьледваньне, скажам, школы, заслухаць на курсах вывады па абсьледваньню; практычна паказаць далейшы парадак праходжаньня гэтага пытаньня праз Прэзыдыум, ці пленум с-с.); г) арганізаваць праверку бліжэйшага суседняга с-савета і на канкрэтных фактах яго работы паказаць—як трэба рабіць у сапраўднасьці. Пастаноўку ў савеце тэхнічнай працы трэба на курсах прарабіць галоўным чынам у разрэзе практычнага зьместу.

І калі тэорэтычная падрыхтоўка будзе падмацована работаю практычнай, тагды можна напэўна спадзявацца, што курсанты ўсвояць праграму добра і набудуць сапраўдны вопыт для працы ў савеце.

Яшчэ патрэбна спыніцца на тым, які-ж можа быць колькасны склад курсаў. Вядома, што ў значнай меры гэта будзе залежыць ад тых сродкаў, якія ёсьць для курсаў. Але-ж надта грамоздкія па колькасьці курсы адмоўна ўплываюць на працу апошніх. Абслугоўваць выкладчыкамі значныя па колькасьці курсы, асабліва пры гурткавай рабоце, надта цяжка. Улічваючы ўсё гэта, можна дапушчаць склад курсаў ня больш, як 80—90 чалавек.

Лукашэвіч.

**Узьнясьце кваліфікацыі нізавых савецкіх работнікаў палепшыць якасьць работы савецкага апарату. Перападрыхтоўка гэтых работнікаў па практычных пытаньнях савецкага будаўніцтва забясьпечыць далейшае ажыўленьне работы саветаў.**

# Аб працы на вёсцы сельсаветаў і КСУ.

Наша краіна вядзе ўпартую барацьбу за павышэньне ўраджаю і рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, ставячы сваёй задачай ў гэтай справе скарыстаць шырокую сялянскую ініцыятыву і самадзейнасьць праз сельсаветы і камітэты ўзаемадапамогі.

Шырокае поле дзейнасьці адкрыта тут перад сельсаветамі, якія зьяўляюцца ня толькі адміністрацыйным, але і гаспадарча-культурным асяродкам на вёсцы, гуртуючы вакол сябе ўсю грамадзкасьць, праз якую неабходна ўзварушыць усе пласты працоўнага насельніцтва для сацыялістычнага будаўніцтва.

У нашай краіне пазбаўлены ад эксплёатацыі пралетарыят шчыльна самкнуў свае шэрагі вакол камуністычнае партыі і пад правільным яе кіраўніцтвам пасьпяхова спраўляецца з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і, ня гледзячы на вялікую напружанасьць, дамагаецца павялічэньня вытворчасьці, палепшаньня якасьці прадукцыі і зьніжэньня сабекошту. Каб забясьпечыць шпаркі тэмп сацыялістычнага будаўніцтва, патрэбна забясьпечыць нашу прамысловасьць сыравінай і неабходнымі прадуктамі спажываньня. Адгэтуль паўстае пытаньне ўзмацненьня саюзу паміж рабочым і селянінам на грунце рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, якая забясьпечыць узяты тэмп разьвіцьця народнай гаспадаркі, адначасова забясьпечыць прамысловасьць і рабочых сыравінай і харчаваньнем, а сельскую гаспадарку машынамі і прыладамі. Таму сельска-гаспадарчыя камісіі сельсаветаў павінны паставіць перад сабой задачу павышэньня вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы, якая-б забясьпечыла само сялянства сваімі вырабамі і дала-б для рабочых харчаваньне і сыравіну для прамысловасьці.

Дзеля падняцьця вытворчасьці сельскай гаспадаркі неабходна пры кожным сельсавеце ўзмацніць працу сельска-гаспадарчых камісій, якія павінны разгарнуць працу пад кіраўніцтвам с/савету, пры шчыльным удзеле ў працы КСУ.

Вывучаючы ўмовы тых галін сельскай гаспадаркі, якія неабходна разгортваць у вёсцы, прыкладамі на практыцы сельска-гаспадарчая камісія павінна весьці падрыхтоўку да пераходу на шматпольле, увядзеньня правільнага севазвароту, замены старой культуры і старых форм карыстаньня новымі—сацыялістычнымі, пераводзіць гаспадаркі ад індывідуальных да калектыўных. Сельска-гаспадарчыя камісіі пры сельсаветах павінны зьявіцца асяродкам сельска-гаспадарчай культуры на вёсцы, яны павінны вывучаць і мець літаратуру па сельскай гаспадарцы, а таксама дапамагаць правядзеньню ўсіх мерапрыёмстваў ураду па ўзьняцьцю і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, прасоўваць іх у шырокія пласты працоўнага сялянства.

Сельска-гаспадарчыя камісіі да гэтага часу не разгарнулі працы сярод насельніцтва, не завастрылі пытаньня аб рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, не падрыхтоўвалася імі глеба для калгаснага будаўніцтва.

У некаторых сельсаветах с.-г. камісіі зусім не вядуць ніякай працы. Такія адносіны камісій да сваіх абавязкаў злачынны. З такім зьявішчам наша грамадзкасьць павінна весьці самую рашучую барацьбу. Сельсавет павінен правяраць працу камісій, штодзённа павінен сачыць за іх працаю, аказваючы ім дапамогу. Трэба ўзяць пад агонь усіх тых, хто нядбайна адносіцца да сваіх абавязкаў, незалежна ад таго, дзе ён працуе. Калі мы вядзём барацьбу з прагуламі, п'янствам, шкодніцтвам і іншымі злаўжываньнямі ў прамысловасьці, дык і ў працы сялян патрэбна шырокая самакрытыка. Трэба крытыкай выявіць паасобныя недахопы кожнай гаспадаркі, абмеркаваць на пасяджэньні камісіі, як можна палепшыць гаспадарку, што можа зрабіць сам гаспадар, якая дапамога можа быць ад грамадзкасьці і дзяржавы, камісія павінна крытыкаваць паасобныя вёскі, параўнаючы культурныя прыклады.

У склад камісіі павінны ўвайсьці апрача членаў савету прадстаўнікі камун, саўгасаў, калгасаў, прыкладныя гаспадары і вясковая інтэлігенцыя. Трэба дабіцца, каб кожны член камісіі ведаў палажэньне аб камісіях, выданае ЦВК. Арганізаваць чытку і інструктаж камісіі. Скласьці плян працы, весьці сыстэматычную працу сярод сялянства, увязаўшы яе з КСУ. Калі ўзяць сучаснае становішча КСУ і адносіны да яго, дык у некаторых мясцовасьцях лічаць, што існаваньне іх непатрэбна, што з іхнымі задачамі і працай справіцца ўпаўнаважаны пры сельсавеце, які будзе абслугоўваць сацыяльнай забясьпекай. Такая недаацэнка ролі і працы КСУ бязумоўна памылка. Праца камітэтаў узаемадапамогі ёсьць, але ня ўсе працаўнікі ўсвоілі тыя задачы, якія стаяць перад імі і займаюцца выключна выдачай сродкаў, якія адпускаюцца па каштарысу дзяржавы на падтрыманьне беднаты, сваю-ж самадзейнасьць не праяўляюць і не разгортваюць грамадзкай працы сярод працоўнага сялянства. Бязумоўна, такая праца невыстарчальная, і гэта гаворыць за тое, што КСУ павінны быць забясьпечаны працаўнікамі ўпэўненымі ў сьвёй працы і актыўнымі.

Задача камітэтаў Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі не вырашаецца простым разьмеркаваньнем сродкаў, а патрабуе арганізацыі беднаты для барацьбы супроць кулацтва, за вызваленьне ад уплыву заможных, за саюз з серадняцтвам, за палепшаньне дабрабыту і падняцьце самадзейнасьці працоўных беднякоў і сераднякоў, якую трэба накіраваць да сацыялістычнага будаўніцтва, праз якое будзе палепшацца дабрабыт працоўных. Роля сельсавету павінна складацца ня толькі з выкананьня дырэктыў, а і з кіраваньня гаспадарча-культурным будаўніцтвам праз грамадзкасьць і самадзейнасьць самога насельніцтва. Да апошняга часу справа гэта слаба вялася, і сельсаветы павінны зараз заняцца як сьлед разьвязваньнем задач плянавага гаспадарча - культурнага будаўніцтва на вёсцы.

Для гэтае мэты неабходна падлічыць усе тыя культурныя сілы і актыў вёскі, разьмеркаваць і скласьці плян працы, плян будаўніцтва, падшукаць прыбытковыя крыніцы, прыцягнуўшы шырокія колы працоўнага сялянства, скарыстоўваючы яго запатрабаваньні да будаўніцтва і яго самадзейнасьць, уцягнуўшы вясковы актыў у штодзённую працу па савецкім будаўніцтве на вёсцы. Адначасова з гэтым трэба разгарнуць шырокую самакрытыку па пытаньнях будаўніцтва сельскай гаспадаркі, уключна да крытыкі паасобных гаспадарак, зазначаючы на дрэнных гаспадароў, адзначаючы прыкладныя гаспадаркі, раўняючыся па калектыўных гаспадарках.

**Масальскі.**

# НАШ КОНКУРС.

## Лепшыя ў Беларусі сельсаветы і сэкцыі гарсаветаў.

## Работа Астапенскага сельсавету

(Багушэўскі раён, Аршанскай акругі).

Сельсавет яднае 36 насельных пунктаў, з якіх 13 вёсак, а астатнія хутары і 1 былы маёнтак. Калгаснага будаўніцтва сельскай гаспадаркі няма і покуль што яго цяжка арганізаваць, бо насельныя пункты пераважна вядуць хутарскую гаспадарку, а вёскі ў большасьці невялікія; зараз праведзена падрыхтоўчая праца па арганізацыі толькі аднаго калгасу ў былым маёнтку Песачанка.

За 1927-28 г. арганізавана на абшарах с/савету 2 меліарацыйных таварыствы; пры адным з іх арганізавана агнятрывалае т-ва па вырабу цэглы, цэмантовых труб для студняў, якім у 1927 годзе выраблена 43.000 штук цэглы, у тым ліку 30 т. паленай, а ў 1928 годзе выпалена 80 тыс. штук цэглы і зроблена 106 бэтонных колец.

Мерапрыемствы с/савету па правядзеньні меліарацыйных работ далі магчымасьць падняць сельскую гаспадарку. Палепшаньню сельскай гаспадаркі спрыяла таксама пашырэньне скарыстаньня штучнага ўгнаеньня, пашырэньне пасеву тэхнічных культур (лёну, бульбы і травасеяньня) і іншыя агранамічныя мерапрыманьні, а таксама крэдытаваньне, каапэраваньне бедняты і іншыя льготы.

Меліарацыйнымі т-вамі ў 1927 годзе асушана 214 гэктараў забалочанае зямлі, а ў 1928 годзе—71 гэктар і прачышчаны каналы, што былі пракопаны ў 1927 годзе. Т-ва яднае 8 вёсак. Пры меліарацыйным т-ве заснованы 2 паказальных вучасткі з мінэральным угнаеньнем, якія ўжо далі досыць значныя вынікі і выклікалі ініцыятыву іншых вёсак к арганізацыі таварыстваў, дзе вядзецца ўжо падрыхтоўчая праца праз саветы па іх арганізацыі.

У справе каапэраваньня сельсаветам праведзена значная работа, асабліва па каапэраваньні бедняты. У 1926 годзе спажывецкае т-ва капэравала 121 гаспадарку ці 21% усіх двароў, у тым ліку 42 бядняцкія гаспадаркі; сельска - гаспадарчае крэдытнае т-ва каапэравала 122 гаспадаркі ці 22,5 проц. На 1 верасьня 1928 году спажывецкая каперацыя яднала ўжо 481 гаспадарку, або 86 проц. агульнага ліку двароў сельсавету, з іх 173 бядняцкіх гаспадаркі, або 93 проц. гаспадарак гэтай катэгорыі; сельска-гаспадарчае крэдытнае т-ва залучыла ў склад пайшчыкаў 334 гаспадаркі, або 69 проц., з іх 163 бядняцкіх гаспадаркі, або 86,5 % гэтых гаспадарак. У сувязі з павялічэньнем ліку пайшчыкаў у крэдытным т-ве павялічыліся выдачы крэдыту насельніцтву; так, калі ў 1926 годзе насельніцтва палучыла было 810 руб. крэдыту, то ў 1928 годзе было палучана 9.050 руб., апрача сум, атрыманых меліарацыйнымі таварыствамі.

Зямельныя спрэчкі, якія ўзьнікалі ў межах с/савету, у большасьці вырашаліся на мясцох, пры чым клясавая лінія была вытрымана цалкам. Больш складаныя спрэчкі вырашаліся Раённай Зямельнай Камісіяй, але папярэдне яны таксама разглядаліся сельсаветам. Трэба адзначыць, што адмены пастаноў сельсавету не здаралася, што даказвае аб правільным падыходзе сельсавету к вырашэньню спрэчных зямельных пытаньняў.

У сельсавеце налічваецца 330 гэктараў лесу мясцовага значэньня. Ахова лесу праводзіцца упаўнаважанымі, а таксама вартаю, якая вызначаецца самімі вёскамі. Для большай пасьпяховасьці работы упаўнаважаных сельсавет праводзіў з імі інструкцыйныя нарады па пытаньні аб ахове лесу, праверваў работы асобных упаўнаважаных шляхам заслухоўваньня іх дакладаў на прэзыдыуме сельсавету і агульных сходах насяленьня. Дзякуючы гэтаму становішча лясоў мясцовага значэньня яўляецца здавальняючым, аб чым сьведчыць, напрыклад, што за два гады было складзена толькі 3 пратаколы на самавольных парубшчыкаў. Ачыстка лесу ад буралому і ад высечак праводзіцца своечасова.

У сельсавеце ідзе адна прыватная смалакурня і адзін дзяржаўны млын, якім арандуе прыватнік. Сельсавет сыстэматычна наглядае, каб на гэтых прадпрыемствах выпаўняліся законы аб працы, а таксама арэндныя ўмовы. Зараз с/саветам ўзьнята пытаньне аб перадачы гэтага млыну Камітэту Ўзаемадапамогі. Аднačасна праводзяцца мерапрыемства па арганізацыі агнятрывалага таварыства, па вырабу чарапіцы і вывучаецца пытаньне аб арганізацыі тарпяного таварыства.

Становішча шляхоў і мастоў да 1926 году было зусім кепскім, але за час з 1927-28 году значна палепшылася. Вельмі значную дапамогу ў дарожным будаўніцтве дало само насяленьне. Так, пры ўдзеле насяленьня ў 1927 годзе папраўлены 21 кіл. дарогі, адрэмантавана 19 мастоў даўжынёю ў 69 мэтраў і пабудованы 17 мастоў на 83 мэтры даўжыні. У 1928 годзе на паступленьне ад самаабкладаньня пабудована 19 новых мастоў агульнай даўжынёю на 32 мэтры, адрэмантавана 27 старых мастоў на 57 мэтраў і папраўлена 6 кіл. грунтоўных шляхоў (засыпаны ямы, зроблены насыпы, і пракопаны канавы па баках), на што патрачана 477 руб. 40 к. Апрача гэтага, у 1927 годзе на сродкі камунальнае гаспадаркі пабудован адзін мост на 22 мэтры ўдоўжкі, а ў гэтым годзе чатыры масты. Апрача гэтага зараз будуецца новы вялікі мост у вёс. Песачанка на сродкі акружнай камунальнай гаспадаркі. Ува ўсім шляховым будаўніцтве сельсавет праявіў вялікую ініцыятыву, чым значна павялічыўся аўтарытэт сельсавету сярод насяленьня.

У 1927 годзе ў цэнтры савету была аформлена арганізацыя дабраволькай пажарнай дружыны, у якую тагды залічылася 21 чалавек ахвотнікаў. Для дружыны за сумы самаабкладаньня набыта новая пажарная машына і інш. інвэнтар. Пакуль што дружына яшчэ не разгарнула як след сваёй працы, ня гледзячы на ўсе патугі сельсавету. Па іншых вёсках праведзены падлік проціпажарнага інвэнтару, выбары пажарных стараст і інш. Дасюль з пажарнымі старастамі праведзены дзьве інструкцыйныя нарады аб іх працы і абавязках. Дзякуючы гэтаму пажарнымі старастамі праверка спраўнасьці пячэй і комінаў праводзілася сыстэматычна, пры чым на заўважаныя недахопы сельсавет хутка рэагаваў. Для папярэджаньня

пажараў насельніцтвам атрымана 145 руб. крэдыту для ажыцьцяўленьня проціпажарных мерапрыманьняў, як папраўка пячэй і комінаў.

Свайго бюджэту сельсавет ня мае. Сельска-гаспадарчага падатку на 1927-28 год было налічана 5.109 рублёў, з якіх 1.304 рублі былі зьняты. Падатак быў узыскан сваечасова. На 1928-29 год падатку налічана 7.333 рублі, з якіх зьнята 2.094 рублі. Добра праводзіцца ўзысканьне страхавых плацяжоў: за мінулы год засталося няўзысканымі 18 руб., якія залічаны ў нядоімку на гэты год. Узысканьне падатку па сельсавету праводзілася ў большасьці праз сяброў сельсаветаў; хоць прымусовыя меры спагнаньня і ўжываліся ў дачыненьні больш заможных чеплацельшчыкаў, але выпадкаў прадажы іх маёмасьці за два гады ня было. Наогул па спагнаньні падатку Астапенскі сельсавет у працягу 1925-26 году і 1927-28 г. стаяў на першым месцы ў раёне. Пры гэтым, трэба адзначыць, што сельсавет ува ўсёй падатковай і крэдытнай рабоце цьвёрда трымаўся клясавага прынцыпу і на яго работу з боку насяленьня не паступала ніякіх скарг.

На тэрыторыі сельсавету каапэрацыйных і гандлёвых арганізацый і прыватных гандляроў няма, насяленьне-ж абслугоўваецца каапэрацыйнымі арганізацыямі, якія знаходзяцца ў мястэчку Багушэўскім.

Работа савету ў правядзеньні загатоўчай кампаніі выявілася ў шырокім растлумачэньні насяленьню задач і важнасьці загатовак; якіхнебудзь выкрыўленьняў дырэктыў па гэтым пытаньні з боку саветаў не сустракалася.

У сельсавеце ў 1926 годзе налічвалася 3 пачатковых школы, а зараз ёсьць пяць; у 1927 годзе працаваў апорны пункт па ліквідацыі няпісьменнасьці, а ў 1927-28 годзе—школа няпісьменнасьці. Апрача гэтага на тэрыторыі с/савету арганізаваны дзьве несецявых хаты-чытальні, у якіх разгорнута даволі значная палітыка-асьветная работа.

Узаемадачыненьні паміж с/саветам і школамі былі здавальняючыя; сельсавет наколькі мог дапамагаў школам паляпшаць іх гаспадарчае становішча; па ініцыятыве сельсавету была арганізавана падвозка апалу школам у 1927 годзе, а ў 1928 годзе за лік самаабкладаньня было дастаўлена апалу ў школы на 150 рублёў, зроблена рамонту на 50 рублёў, выдана на гаспадарчыя расходы 50 рублёў, на дапамогу бедным вучням 100 рублёў і на ясьлі 100 рублёў. Дзякуючы гэтаму гаспадарчае становішча школ значна палепшылася.

Агульнае кіраўніцтва школамі ажыцьцяўлялася, шляхам сыстэматычнага агляду школ і пастаноўкі дакладаў аб іх працы на пасяджэньнях с/савету.

Сельсавет завёў і вучот інвалідаў, ўдоў, а таксама беднаты, якія здавальняліся рознымі льготамі. Клясавая лінія ў дачыненьні іх была цалкам вытрымана.

Работа с/савету праводзілася на падставе плянаў і ў адпаведнасьці з наказамі выбаршчыкаў; толькі ў працягу $1\frac{1}{2}$ м-ца 1928 г. Прэзыдыум працаваў бяз пляну. Пляны выпаўняліся на 90—94 проц.

Пасяджэньні сельсавету праводзіліся сыстэматычна: пленумы склікаліся штомесяц, прэзыдыумы—два разы ў месяц. Як агульнае правіла, пытаньні на пасяджэньнях савету ставіліся пасьля дакладнай падрыхтоўкі самімі дакладчыкамі, а калі пытаньне ставілася на пленум, то і прэзыдыуму. Практыкаваліся і выязныя пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў. Наведваньні пленумаў сябрамі с/савету ў сярэднім складае 88—90 проц. Апрача сяброў на пленумах прысутнічаюць дэлегаты, вясковы актыў і даволі значны лік насяленьня.

Пры савеце арганізаваны 5 камісій: сельска-гаспадарчая, культ-асьветная, падатковая, дарожна-лясная і каапэрацыйная. Апрача гэтых камісій, пры савеце існавалі і іншыя часовыя камісіі. У пастаянных камісіях лічылася 33 асобы, пераважна члены савету.

Лік членаў паасобных камісій хістаецца ад 5 (сельска-гаспадарчая, падатковая і каапэрацыйная) да 11 (культ-асьветная). Усімі пастаяннымі камісіямі за ўвесь час праведзена 77 пасяджэньняў, пры чым падатковая камісія зьбіралася 39 раз, культ-асьветная—18, дарожна-лясная—13; што-ж дачыняецца каапэрацыйнае камісіі, то яна зьбіралася на пасяджэньні ўсяго 4 разы, а сельска-гаспадарчая—толькі 3. Усяго камісіямі разгледжана 348 пытаньняў, што сьведчыць пра вялікі ўдзел камісій у рабоце саветаў. Найбольш пытаньняў разглядзела падатковая камісія—236, культ-асьветная—55, дарожна-лясная—41, каапэрацыйная—11, а сельска-гаспадарчая—толькі 5. Такім чынам з усіх пастаянных камісій слаба працавалі толькі сельска-гаспадарчая і каапэрацыйная камісія.

Апрача гэтага часовымі камісіямі праведзена 61 пасяджэньне, на якіх разгледжана 147 пытаньняў.

Кіраўніцтва дзейнасьцю камісій ажыцьцяўлялася прэзыдыумам савету ў выстарчальнай ступені, шляхам заслухоўваньня іх дакладу і справаздач аб рабоце.

Сельскія сходы праводзіліся пад непасрэдным кіраўніцтвам сяброў сельсавету або прэзыдыуму. Усяго праведзена 274 сходы. Пытаньні на сходы, калі ня лічыць пытаньняў, ўзьнікаўшых у час сходаў, заўсёды папярэдне падрыхтоўваліся.

За ўвесь час дзейнасьці савету апошнім былі зроблены справаздачы аб сваёй дзейнасьці на 32 справаздачных вучастках; справаздач членаў саветаў было праведзена 27. Справаздачы адзначаліся сваёю сьціслаею, дакладнасьцю і заўсёды падмацоўваліся патрэбнымі лічбамі.

Для прыёму наведвальнікаў старшынёю с/савету былі вызначаны 3 дні ў тыдзень: нядзеля, аўторак і пятніца; сакратар-жа прымаў штодня. Рэшта часу старшыня працаваў у паасобных пунктах с/савету, дзе і прымаў мясцовае насяленьне. Усе заявы разьбіраліся сваечасова і дакладна; залежаў ня выкананых папер няма. Дадатнасьць гэтае галіны працы саветаў адзначалася не аднаразова рэвізійнаю камісіяй і прадстаўнікамі вышэйшых устаноў, у тым ліку памочнікам акруговага пракурору.

Пачынаючы з 1925 г., са складу выбарчых працаўнікоў савету тры асобы ўзяты на работу у раённыя установы, з якіх адзін на пасаду загадчыка зямельнае часткі, другі—на пасаду РВК і трэці—раённага пажарнага інструктара.

Кіраўніцтва дзейнасьцю грамадзкіх арганізацый ажыцьцяўлялася шляхам пастаноўкі дакладаў апошніх на прэзыдыумах і пленумах савету, пры чым даклады часта ставіліся з папярэднім абсьледваньнем праз вылучанага для гэтага члена сельсавету.

# Дасягненьні сэкцыі аховы здароўя

## БАБРУЙСКАГА ГАРСАВЕТУ.

Сэкцыя была арганізавана з 21 члена гарсавету і 13 кандыдатаў. Паводле сацыяльнага становішча, сэкцыя складалася: з рабочых—10 чалавек, саматужнікаў—1, вайскоўцаў—4, хатніх гаспадынь—11. Такім чынам сэкцыя яднала прадстаўнікоў розных прафэсій.

Апрача членаў і кандытаў гарсавету, у склад сэкцыі было залучана 30 чалавек актыву, з іх—23 дэлегаткі і 6 рабочых.

Сваю работу сэкцыя праводзіла ў двух кірунках: па палепшаньні санітарнага становішча гораду і палепшаньні работы лячэбна-прафіляктычных установ.

Пераважнымі мэтадамі работы сэкцыі былі: мэтад абсьледваньняў і мэтад прымацаваньня сваіх членаў групамі к установам, работа якіх (груп) праводзілася пад кіраўніцтвам вызначанага старшыні групы. Установкаю першага і другога мэтадаў было—як мага больш шырокае выкарыстоўваньне членаў сэкцыі ў яе рабоце і прыбліжэньне, перанясеньне значнай часткі работы сэкцыі на прадпрыемствы і ўстановы.

У зьвязку з гэтым абсьледваньні праводзіліся камісіямі, у якія з другое паловы 1928 году пачалі залучацца ўрачы, чым павялічвалася кампэтэнцыя камісіі і паляпшалася іх работа—з аднаго боку, а з другога—узгадаваўся савецкі актыў сярод урачоў, дадатнасьць чаго зразумела сама па сабе.

Кожная камісія перад тым, як прыступіць к рабоце, добра інструктавалася пра свае абавязкі і способы іх выпаўненьня. Дзякуючы гэтаму, камісіі лёгка і добра спраўляліся са сваімі задачамі, як у сэнсе вынікаў, гэтак і ў сэнсе мэтадаў работы. Так, абсьледваньні праводзіліся з залучэньнем у іх шырокіх мас працоўных шляхам прапрацоўкі вынікаў абсьледваньняў на вытворчых нарадах абсьледваных установ. Пасьля гэтага вынікі абсьледваньняў ставіліся на абгаварэньне бюро і пленумаў сэкцый, дзе заслухоўваліся даклады старшынь камісій, праводзіўшых абсьледваньні і садаклады кіраўнікоў абсьледваных установ. І толькі пасьля такое падрабязнае і грунтоўнае прапрацоўкі матар'ялаў пытаньне ставілася на пасяджэньне гарсавету. У выніку амаль усе без выключэньня прапановы сэкцыі былі ўхвалены гарсаветам.

Адначасна сэкцыя цікавілася ня толькі вывучэньнем работы лячэбна-прафілактычных установ і санітарным становішчам гораду. Сэкцыя не абмінула пытаньняў сувязі з масамі, інфармацыі насяленьня аб сваёй рабоце, яе посьпехах і недахопах. Для гэтага даваліся інфармацыі аб рабоце сэкцыі ў мясцовы друк, а таксама выкарыстоўваліся агульныя сходы рабочых і служачых, дзе ставіліся адпаведныя даклады сэкцыі (дом адпачынку, друкарня і інш.). Гэтым дасягаўся поўны кантакт работы сэкцыі з запатрабаваньнямі працоўных.

Якімі-ж дасягненьнямі сэкцыя можа пахваліцца? Пачнем па традыцыі з пасяджэньняў. З 17-га мая 1927 г. да 15-га студзеня 1929 г., г. зн. за 19 месяцаў работы, сэкцыя правяла 25 пасяджэньняў бюро і 26 пленумаў, што ў сярэднім дае бяз малага 3 пасяджэньні на месяц. Большага і ня трэба.

За гэты-ж час сэкцыя абсьледавала дзіцячыя яслі, дом груднога дзіцяці, начны санаторы, вэнэрычны дыспансэр, сухотны дыспансэр, савет сацыяльнай дапамогі, аптэкі, дом адпачынку, амбуляторыі, больніцы і шэраг іншых лячэбна-санітарных установ гораду, а таксама пастаноўку народнага харчаваньня, бойню, асанізацыйны абоз і санітарнае ўтрыманьне дамоў гораду і г. д. Такім чынам абсьледваньнямі ахвачан вельмі вялікі лік установ, што зьяўляецца вельмі значным дасягненьнем.

Тут паўстае пытаньне, а што зрабіла сэкцыя для палепшаньня становішча аховы здароўя працоўных гораду ў выніку ўсіх гэтых абсьледаваньняў, дакладаў, інфармацый і г. д.?

Зроблена таксама ня мала. Напрыклад, пры бальніцы пабудавана буйная мэханічная пральня, адчынена амбуляторыя на Бярэзінскім фарштаце, арганізуецца карэта хуткай дапамогі, адчынена гінэкалёгічнае аддзяленьне, адчынен новы рэнтгенаўскі габінэт, арганізавана панчошная майстэрня пры савеце сацыяльнай дапамогі вэндыспансэру, дзе жанчыны, якія займаліся прастытуцыяй, набываюць працоўныя навыкі, адчынена станцыя па лоўлі безнагляданых сабак. Побач з гэтым пашырана акруговая амбуляторыя, пашырана мэдычная дапамога па дамох, спрошчана рэгістрацыя ў амбуляторыі хворых да ўрачоў, арганізаваны курсы падрыхтоўкі санітарак для дагляду хворых па дамох, палепшана пастаноўка работы ў доме груднога дзіцяці, пашыраны дзіцячыя яслі, арганізаваны дзіцячыя пляцоўкі, праведзена падгатоўка працоўных і праводзіцца зараз у справе першай дапамогі для чаго існуе 16 гурткоў, адначасна сэкцыя прымала шырокі ўдзел у правядзеньні сухотнага трохдзёньніку і г. д.

Наогул, ня было такога пытаньня, якім бы сэкцыя не цікавілася, абы толькі яно дачынялася яе кампэтэнцыі, пачынаючы ад асанізацыйнага абозу і канчаючы пытаньнем аб лоўлі безнагляданых сабак.

Якія-ж недахопы ў рабоце сэкцыі і ці ёсьць яны наогул?

Мне, здаецца, няма. Сама-ж сэкцыя палічыла за недахоп выпаўненьне пляну на 90 проц. (!), няпоўную яўку членаў сэкцыі на яе пасяджэньні, невялікія посьпехі ў барацьбе з прастытуцыяй. Можна плян выканаць і на 300 проц. і нічога ня даць; стопроцантная яўка членаў сэкцыі на пасяджэньні зьяўляецца ідэалам, а барацьба з прастытуцыяй — барацьба з ценявымі бакамі нашага быту, што зьяўляецца справаю ня толькі аднае сэкцыі, а ўсіх сэкцый усяго гарсавету, кожнага грамадзяніна, і вінаваціць толькі адну сэкцыю ў гэтым—няўдзячная патуга. З другога боку такія самаабвінавачваньні сэкцыі сьведчаць, што яна не захапляецца дасягнутымі посьпехамі, што яна прыдзірчыва сама к сабе, а ў гэтым—здаровае начала, зарука актыўнасьці, зарука новых і новых посьпехаў.

Праўда, паказаныя дасягненьні нельга прыпісваць толькі аднэй сэкцыі: яны зьўляюцца адначасна дасягненьнямі ўсяго гарсавету, ўсяе савецкае ўлады але сэкцыя дапамагала дасягаць іх сваею ўважлівасьцю, сваею актыўнасьцю, пераварваючы падгатоўчыя матар'ялы ў сваім масавым катле. У гэтым і зьмяшчаецца агромністая заслуга сэкцыі. Сваю задачу сэкцыя выпаўніла пасьпяхова і заслужыла таго, каб стаць у лік лепшых сэкцый на Беларусі. Слова за конкурснай камісіяй.

Р.

# Як мы жывём і працуем *).

### Арганізацыйная і масавая праца савету.

Склад сельскага савету ў 1928 годзе меў у сабе 40 проц. беднякоў, 53 проц. серадпякоў і 7 проц. заможных. Жанчын у савеце 13 проц. Пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў савету адбываліся больш-менш рэгулярна. За двохгадовы тэрмін адбылося 48 пасяджэньняў пленумаў і 21—прэзыдыумаў. Агульных сходаў сялян праведзена 31.

Наведваньне сябрамі савету пленумаў і прэзыдыумаў дасягае 75—100 проц. Кіраўніцтва існуючымі на тэрыторыі сельсавета арганізацый адчувалася недастатковае. Гэтае кіраўніцтва праводзілася шляхам заслухоўваньня дакладаў арганізацый на пленумах і прэзыдыумах савету, дзе і даваліся дырэктывы.

Пытаньні агульных сходаў падрыхтоўваліся заранёй. Сувязь савету з насельніцтвам праводзілася шляхам выездаў для правядзеньня агульных сходаў у асобныя населеныя пункты.

Сельскі савет актыўна ўдзельнічаў у правядзеньні працы з беднатою. Толькі праца з жанчынамі ў савеце праводзілася слаба.

На агульных сходах сялян ставіліся пытаньні гаспадарчага характару. Апрача таго, ставіліся пытаньні паляпшэньня дабрабыту вёскі. Пастановы па ім вынасіліся канкрэтныя, выходзячы з маючыхся магчымасьцяў.

Актыву даваліся тыя ці інш. даручэньні. Актывісты групаваліся вакол сельсавету, прыцягваліся на пленумы, пасяджэньні прэзыдыуму. Вучот бядняцкага актыву ёсьць, але вылучэньне яго на кіруючую працу недастатковае.

### Гаспадарчыя пытаньні ў асяродак увагі.

Сельсавет цікавіўся рознымі гаспадарчымі пытаньнямі. Разгортваньне працы па калектывізацыі перашкаджалі, аднак, дальназямельле, церазпалосіца і г. д.

Пры землеўпарадкаваньні вёскі Таль, намечанага на 1929-30 год, сельсавет намеціў арганізацыю ня менш двух калгасаў. У гэтым напрамку вядзецца падрыхтоўчая праца.

Па сельсавету павялічылася плошча засеву тэхнічных, больш прыбытковых культур. Крэдыт накіроўваўся па напрамку дапамогі бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам. Сельсавет правяраў правільнае скарыстаньне крэдытаў.

Вялікая растлумачыцельная і практычная праца праароблена ў галіне каапэраваньня насельніцтва, асабліва беднаты. У працы каапэрацыі, аднак, назіраюцца недахопы: недастатковае снабжэньне пайнікаў таварамі, недастатковае разгортваньне загатовак і г. д.

### Бюджэт, падатак, самаабкладаньне.

Падатак 1927 года выканан на 100 працантаў; 1928-29 года—на 95 проц. Аслабанена ад падатку 38,7 проц. беднаты.

Бюджэт сельсавету складаўся з сродкаў ад продажу лесу мясцовага значэньня, карчоў і іншых крыніц. Атрыманыя сродкі накіроўваліся на паляпшэньне становішча вёскі: пабудаваны нардом, пажарнае дэпо. Акрамя таго, аказвалася дапамога бядняцкім вучням школ, аплачваліся лясныя вартаўнікі і г.д.

У 1928 годзе праведзена самаабкладаньне на 30 працантаў. Сродкі пайшлі на ўзмацненьне супроцьпажарнай аховы вёскі: закуплена 8 бочак, пабудавана каланча і г. д. Акрамя таго, рабілася іншая праца па паляпшэньню дабрабыту вёскі. На 1929 год праведзена самаабкладаньне, але грошы яшчэ ня ўзысканы.

### Нашы слабыя мейсцы.

У сельсавеце ёсьць чатырохкамплектовая школа, але ахоп ёю вучняў усё-ж такі нязначны. Дзеці населеных пунктаў Лапачоў Брод, Даўгалесьсе амаль зусім не ахоплены школай. Ёсьць у пункце Нежараўка прыватная школа.

Лячэбнай і вэтэрынарнай дапамогай насельніцтва абслугоўваецца слаба. Лячэбнага пункта няма. Насельніцтва абслугоўваецца раённай амбуляторыяй. Недастаткова абслугованьне насельніцтва і сацыяльнай забясьпекай.

Пры сельсавеце існуюць камісіі: культурна-санітарная, дабрабыту, зямельная, каапэратыўная, лясная, фінансава-падатковая. Старшынямі камісій зьяўляюцца старшыні сельсаветаў.

Камісіі працуюць слаба. Напрыклад, зямельная камісія ня мела ніводнага пасяджэньня. Плянавасьці ў працы камісій ня было. Праца іх мала ўвязвалася з агульнай працай сельсавету. Жанчыны слаба ўцягваліся ў працу.

**С. Ф. Рудзеня.**

Любаньскі раён, Бабр. акр.

# За добрую працу трэба прэміраваць.

**(Гомельшчына).**

Абсьледваньне паказала, што Паддобранскі яўрэйскі нацыянальны сельсавет, створаны ў 1925 г., цалкам апраўдаў ускладзеныя на яго надзеі і выканаў наказ выбаршчыкаў.

Па сацыяльнаму складу сельсавету бядняцкі з нязначным лікам саматужнікаў; маецца праслойка партыйцаў. Праца савету праводзіцца на роднай мове; часткова справаводзтва вядзецца на беларускай.

Пры савеце ёсьць актыў, які зьяўляецца першым дапамагатым у працы савету. Актыў складаецца з 27 асоб. Кожны актывіст мае тую ці іншую нагрузку і вядзецца вучот гэтай працы. Сваю працу савет праводзіў па пляну, якім былі прадугледжаны ўсе жыцьцёвыя пытаньні насельніцтва.

У гэтым годзе савет заняўся актыўным выкананьнем баявых пытаньняў. Было прапрацавана пытаньне аб хлебазагатоўках, аб рэалізацыі 2-й пазыкі, аб паляпшэньні працы школы, аб павялічэньні складу пажарнай дружыны і прыдбаньні маемасьці, а таксама было пастаўлена пытаньне аб паляпшэньні становішча кравецкай арцелі, заслуханы справаздачы грамадзкіх, і адміністрацыйных устаноў савету, з папярэднім абсьледаваньнем іх, дадзены дырэктывы і праверана выкананьні сябрамі савету і актывам, іх выпаўненьне.

Справаздачы перад насельніцтвам аб сваёй працы савет рабіў кожныя 4 месяцы; насельніцтва працай савету зацікаўлена.

Пры савеце існуюць наступныя сэкцыі: культурная, гаспадарчая і санітарная. Крыху дрэннавата, што ня ўсе сябры сэкцый актыўна працавалі (асабліва слаба працавала санітарная сэкцыя), але-ж кожная сэкцыя мае свой плян і ў рабоце савету зьяўляецца першым дапамагатым.

*) Газ. „Камуніст" ад 20-І!

# Лепшая ў Слуцку.

## ПРАЦА КАМУНАЛЬНАЙ СЭКЦЫІ СЛУЦКАГА ГАРСАВЕТУ VII СКЛІКАНЬНЯ, за 1927-28 год.

Камунальная сэкцыя Слуцкага Гарсавету VII-га склІканьня была арганізавана 28 сакавіка 1927 г. і скончыла сваю працу да 30/I—1929 г. Па свайму складу сэкцыя зьяўляецца самай вялікай ў параўнаньні з іншымі сэкцыямі. Яна налічвае 57 членаў і кандыдатаў Гарсавету, 10 прымацаваных членаў ЛКСМ і 7 жанчын-дэлегатак.

За ўвесь пэрыяд свае працы сэкцыя правяла 12 пленарных пасяджэньняў, на якіх разгледжана 30 галоўных пытаньняў. На пленумах сэкцыі заслуханы даклады аб працы ўсіх гарадзкіх камунальных прадпрыёмстваў, аб працы ЖАКТ-аў, аб будаўнічых работах і г. д. Дзеля праверкі выкананьня ўстановамі дадзеных сэкцыяй дырэктыў пасьля пэўнага пэрыяду ставіліся паўторна даклады тэй ці іншай ўстановы, даклад якой ўжо раней заслухоўваўся. Вельмі часта пленумы скліквліся ў чырвоных куткох саюзаў, як напрыклад, будаўнікоў і харчавікоў з удзелам членаў саюзаў і рабочых тэй ўстановы, па якой заслухоўваўся даклад. Таксама прымацаваныя дэлегаткі адлічваліся на агульных сходах дэлегатак аб сваёй працы і аб працы сэкцыі і такім чынам ўцягваліся ў сэкцыю новыя члены.

Работа праводзілася па пляну. Яўка на пасяджэньні і наогул дысцыпліна ў сэкцыі была здавальняючая. Узяўшы курс на актыўную работу, сэкцыя ўжыла шэраг мерапрыёмстваў да таго, каб усе члены сэкцыі прымалі ўдзел у працы, напрыклад, 2 члены сэкцыі, якія тармазілі работу, за нежаданьне працаваць былі адкліканы са складу Гарсавету. Таксама было пастаўлена перад Прэзыдыумам Гарсавету пытаньне аб датэрміновых перавыбарах старшыні зямельнай камісіі, які і быў перавыбраны. Прэзыдыум Гарсавету, заслухаўшы справаздачу сэкцыі, адзначыў, што агульны напрамак работы сэкцыі правільны; як становучыя бакі працы сэкцыі, асабліва было падкрэслена наступнае: а) масавасьць і сталае разьмеркаваньне працы сярод членаў сэкцыі; б) плянавае заслухоўваньне дакладаў аб становішчы гарадзкіх устаноў і прадпрыёмстваў; в) сталы натляд за правядзеньнем і ажыцьцяўленьнем пастаноў па камунальных пытаньнях; г) здавальняючая работа зямельнай і жыльлёвай камісій, якія садзейнічалі выяўленьню і перавучоту 30 проц. жыльлёвай плошчы, упарадкаваньню карыстаньня камунальнымі дамамі, разьмеркаваньню зямельных вучасткаў, праверцы выкананьня ўмоў на здадзеную ў арэнду камунальную маёмасьць і г. д.

Бюро сэкцыі за ўвесь пэрыяд правяло 36 пасяджэньняў, на якіх разгледжана 148 пытаньняў. Работа праводзілася па пляну, які выпрацоўваўся на 3 месяцы і зацьвярджаўся пленумам сэкцыі. Яўка членаў бюро на пасяджэньні была добрая. Кожны член бюро адчуваў поўную адказнасьць за працу сэкцыі; напрыклад, калі адзін член бюро па ўважлівай прычыне ня мог зьяўляцца на пасяджэньні ў вызначаны дзень, дык ён сам ставіў пытаньне аб вызваленьні яго і замест яго выбіраўся другі.

Кожны раз перад тым, як заслухоўваўся даклад аб працы тэй ці іншай установы, Бюро вылучала камісію для абсьледваньня, якая потым зьяўлялася садакладчыкам. Такіх дэтальных абсьледваньняў была зроблена 17.

На пасяджэньнях бюро вельмі часта апрача членаў бюро прысутнічалі таксама і радавыя члены сэкцыі. Вынесеныя пастановы бюро амаль што заўсёды аказваліся правільнымі, аб чым сьведчыць тое, што пратаколы сэкцыі заўсёды зацьвярджаліся Прэзыдыумам з нязначнымі зьменамі.

Таксама практыкавалася прымацаваньне членаў сэкцыі для нагляду за штодзённай працай камунальных прадпрыёмстваў гораду, што дало станоўчыя вынікі.

Пры сэкцыі працавалі 2 камісіі—зямельная і жыльлёвая. Амаль што ўсе важныя пытаньні жыльлёвага або зямельнага характару папярэдня абгаварваліся на пасяджэньнях камісіі. Гэтымі камісіямі прароблена вялікая праца па вучоту і выяўленьню 30 проц. жылой плошчы, а таксама зроблена праверка выкананьня арандатарамі ўмоў на камунальную зямлю, сады і г. д. Усяго адбылося 26 пасяджэньняў зямельнай камісіі, на якіх вырашана 273 пытаньні, зроблена розных абсьледваньняў—40. Таксама абсьледваны ўсе камунальныя сады. Пасяджэньняў жыльлёвай камісіі адбылося 20, на якіх вырашана 232 пытаньні. Розных абсьледваньняў зроблена 73. Наведваньне пасяджэньняў было здавальняючае.

Добрая праца сэкцыі была таксама падкрэслена выбаршчыкамі на справаздачных сходах гарсавету, і пасьля перавыбараў гарсавету сэкцыя новага складу з яшчэ большай энэргіяй прынялася за працу.

**Б.**

---

Рэвізыйная камісія працуе добра—кожныя 6 м-цаў праводзіцца рэвізія, пасьля якое робіцца даклад перад насельніцтвам.

Камітэт узаемадапамогі працаваў нездавальняюча, што тлумачыцца тым, што функцыі камітэту былі захвачаны саветам і камітэт самастойна нічога ня мог рабіць.

Пры савеце рэгулярна выпускаецца насьценгазэта. Два разы было пастаўлена пытаньне на агульным сходзе аб самакрытыцы і рэвалюцыйнай законнасьці. Гэта выклікала актыўны ўдзел насяленьня ў абгаварэньні ўсіх пытаньняў, якія ставіліся на справаздачныя сходы.

У Паддобранцы маецца інстытут дэлегатак і ліку 30 жанчын; усе дэлегаткі нагружаны тэй альбо іншай работай і яны актыўна ўдзельнічаюць у працы грамадзкіх арганізацый. У сучасны момант савет заняўся пытаньнем ліквідаваньня няпісьменнасьці; ужо падлічаны няпісьменныя і прымацаваны к лікпункту.

Адмоўнымі бакамі ў працы савету зьяўляюцца наступныя:

а) слаба пастаўлена антырэлігійная праца; няма антырэлігійных гурткоў, не вядзецца ніякай барацьбы з хэдарамі, а мэламэды падпольна навучаюць дзяцей;

б) няма поўнага вучоту правядзеньня хлебазагатовак;

в) амаль-што нічога не рабілася па арганізацыі ў Паддобранцы с-г. калектыву;

г) слаба праводзіцца праца па беларусізацыі апарату;

д) малая падпіска на газэту «Акцябр» (усяго выпісана 33 экз., а пры энэргічнай працы можна выпісаць ня менш 120 экз).

е) слаба праводзілася праца па арганізацыі арцелі гарбароў, шавецкай арцелі, а жаданьне вялікае;

ж) слаба працуе ячэйка МОПР і ТДА-Авіяхэм.

Вось недахопы ў працы Паддобранскага савету. Агульнымі сіламі з удзелам шырокіх мас працоўных і гэтыя недахопы будуць перамажаны.

**Т.**

# Па сэкцыі РСІ.

Па новаму Палажэньню пра гарадзкія саветы, зацьверджанаму 22-га сьнежня 1928 году ЦВК і СНК БССР, колькасьць абавязковых для ўсіх гарадзкіх саветаў сэкцый павялічылася яшчэ на адну—сэкцыю рабоча-сялянскай інспэкцыі. Тая акалічнасьць, што гэта сэкцыя стала абавязковай, кажа аб тым, што задачы, якія стаяць зараз перад рабоча-сялянскай інспэкцыяй, набываюць асабліва важнае значэньне і што для пасьпяховага іх вырашэньня неабходна прыцягнуць праз сэкцыі РСІ новыя масы рабочых, атрымаць з іх боку поўнае садзейнічаньне і актыўнейшы ўдзел у рабоце рабоча-сялянскай інспэкцыі.

У сучасны момант перад РСІ стаяць наступныя задачы: рацыяналізацыя, спрашчэньне і патаненьне апарату, барацьба з бюрократызмам і валакітай, бесгаспадарчасьцю, барацьба з парушэньнямі рэвалюцыйнай законнасьці, праверка выкананьня пастаноў. Але пры сучасных умовах некаторыя з пералічаных задач зьяўляюцца асабліва важнымі і патрабуюць да сябе выключнай увагі. Гэтыя задачы: барацьба з бюракратызмам, спрашчэньне і патаненьне апарату і набліжэньне яго да мас. Уся народная гаспадарка перабудоўваецца, тэмп індустрыялізацыі яе паскараецца, завастраецца клясавая барацьба. Пабудаваны пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі, сацыялістычная яе перабудова «ня могуць быць вырашаны без сапраўднага палепшаньня дзяржаўнага апарату, без яго спрашчэньня і патаненьня, бяз выразнага вырашэньня кожным зьвяном дзяржаўнага апарату задач, якія стаяць перад імі, без рашучага перасіленьня яго заканеласьці, цеганіны, бюракратычнага заціску, кампанійскай кругавой парукі і няўвагі да патрэб працоўных, бяз самага рашучага выгнаньня з апарату чыноўнікаў, якія зрошчваюцца з капіталістычнымі і кулацкімі элемэнтамі, або якія ня здольны даваць адпор спробам кулацка-нэпманскага наступу на пралетарыят і скажаюць клясавую лінію, без адхіленьня форм кіраўніцтва, якія аджылі і не задавальняюць патрэбы савецкай краіны» (з рэзалюцыі XVI Усесаюзнай канфэрэнцыі УсеКП(б) —«Вынікі і бліжэйшыя задачы барацьбы з бюракратызмам»).

Вось сутнасьць стаячых зараз перад РСІ галоўных задач. У. І. Ленін адзначыў, што «РСІ толькі тады ўдасца правесьці сваю работу па барацьбе з бюракратызмам, за палепшаньне нашага апарату, калі ёй удасца ўцягнуць шырокія рабочыя масы ў гэту барацьбу».

Рабочыя масы гораду павінны быць уцягнуты ў работу рабоча-сялянскай інспэкцыі ў першую чаргу праз сэкцыі РСІ. Правільна наладжаная работа сэкцый павінна забясьпечыць і актыўны ўдзел у яе працы рабочых мас і пасьпяховае вырашэньне пастаўленых пытаньняў.

Работа сэкцый павінна праводзіцца перш за ўсё ў плянавым парадку. Трэба распрацаваць гадавы пералік пытаньняў, належачых да вырашэньня, і потым, на падставе гэтага пераліку, скласьці календарны трохмесячны або шасьцімесячны плян. Плян павінен быць рэальным, адпавядаць пакazаным вышэй задачам РСІ і сілам сэкцыі, быць узгодненым з плянамі работ гарадзкога савету і аддзелам рабоча-сялянскай інспэкцыі АВК.

Яшчэ большае значэньне мае для сэкцый мэтад яе работ, парадак і формы практычнага зьдзейсьненьня намечанай праграмы. Зараз, калі сэкцыі пасьля выбараў саветаў толькі прыступаюць да працы, толькі распрацоўваюць пляны работ, вельмі важна адразу паставіць справу на належную вышыню. Пасьля таго, як сэкцыя арганізацыйна афармілася, гэта значыць, калі вызначыўся яе склад, абрана бюро, устаноўлены дні пасяджэньняў сэкцыі,—трэба ўсіх членаў сэкцыі і прымацаваных да сэкцыі асоб праінструктаваць, растлумачыць задачы сэкцыі, а таксама разам абмеркаваць як плян работы, гэтак і мэтады яе. Кожны работнік сэкцыі павінен ведаць ня толькі той параўнаўча нязначны вучастак, на якім ён будзе працаваць, але і той фронт, на якім змагаецца сэкцыя ў цэлым, наогул рабоча-сялянская інспэкцыя. Ад добрага інструктажу і ад уменьня кіруючых работнікаў сэкцыі зацікавіць рабочых працай РСІ залежыць пасьпяховасьць працы кожнага работніка сэкцыі ў паасобку.

Адным з галоўных мэтадаў у рабоце сэкцыі РСІ зьяўляюцца абсьледваньні, якія маюць на мэце праверку працы ўстаноў і прадпрыёмстваў, праверку выкананьня імі розных пастаноў. Перад абсьледваньнем трэба добра праінструктаваць удзельнікаў іх, каб яны не сканцэнтравалі сваю ўвагу выключна на розных дробязях апэрацыйнай работы, а імкнуліся выявіць буйныя недахопы, якія караняцца ў сыстэме работ даннай установы, прадпрыёмства або арганізацыі. Інакш вынікі і значэньне абсьледваньня будуць мізэрнымі ў параўнаньні з колькасьцю затрачанай энэргіі і часу. Абсьледваньні, каб зрабіць іх больш поўнымі і глыбокімі, трэба рабіць сыстэматычнымі і працяжнымі і ўцягваць у іх цэлыя групы працоўных, паставіўшы на чале групы асобу, якая добра ведае адпаведную галіну працы.

Аб выніках абсьледваньня вельмі карысна ня толькі зрабіць даклады на рабочых сходах. Па тых пытаньнях, якія цікавяць рабочыя масы і якія маюць вялікае грамадзкае значэньне (барацьба з бюракратызмам, чыстка апарату), карысна правесьці пленумы сэкцыі непасрэдна на прадпрыёмствах. Дзякуючы гэтаму будзе больш папулярызавана работа сэкцыі, з якой звычайна шырокія працоўныя масы знаёмяцца толькі ў агульных рысах у часы перавыбарчай кампаніі.

Цікавы вопыт зрабіў Ленінградзкі савет, які зьвязаў абсьледваньні з экскурсіямі. За 2—3 дні да выезду, напрыклад, экскурсіі працоўных на прадпрыёмства, сэкцыя пасылае туды абсьледвацельскую групу, якая да прыезду экскурсантаў робіць абсьледваньне і потым на агульным сходзе рабочых прадпрыёмства сумесна з экскурсантамі дакладвае аб выніках абсьледваньня. На гэтым сходзе адбываецца сустрэча выбаршчыкаў і дэлегатаў савету на грунце дзелавога абмеркаваньня практычнай работы прадпрыёмства. Такія экскурсіі, калі зьвязаць іх з пасяджэньнямі пленуму сэкцыі на прадпрыёмствах, дадуць яшчэ больш станоўчыя вынікі. Сэкцыя яшчэ больш зьвяжа гарадзкі савет з працоўнымі і будзе спрыяць максімальнаму разгортваньню савецкай дэмакратыі.

З тае прычыны, што наогул работа сэкцый гарсавету мае, паміж іншымі, і кантрольныя функцыі, неабходна сэкцыі РСІ дабіцца таго, каб з ёю ўзгадняліся ўсе пляны абсьледваньняў іншых сэкцый і такім чынам ухіліцца паралелізму.

Сэкцыя ў сваіх пастановах, якія яна прымае ў выніку абсьледваньняў або заслухоўваньня дакладаў, павінна выходзіць з наяўных магчымасьцяй. Гэта неабходна адзначыць таму, што назіраюцца выпадкі вынясеньня пастаноў, выканань-

# Вакол пытаньня аб „пазбаўленцах“.

Яшчэ да пачатку перавыбарчае кампаніі ў дырэктывах Прэзыдыуму ЦВК у чэрвені і кастрычніку 1928 г. і пасьля ў дырэктывах Цэнтральнай Выбарчай Камісіі зварочвалася асаблівая ўвага на заўчасную падрыхтоўку сьпісаў пазбаўленых, правільнае ажыцьцяўленьне інструкцыі аб выбарах ў саветы і недапушчэньне якіх бы то ні было адступленьняў ў бок пашыральнага або абмежавальнага талкаваньня выбарчае інструкцыі. Зьяўляючыся агульным законам, інструкцыя аб выбарах у саветы ня ў кожным асобным выпадку дае гатовы адказ і патрабуе ўдумлівага ўсебаковага вывучэньня таго ці іншага грамадзяніна з боку органаў, якія вырашаюць пытаньне аб яго выбарчых правах.

Тут вялікую карысьць можа даць удзел савецкае грамадзкасьці пры выяўленьні і складаньні сьпісаў асоб падлягаючых пазбаўленьню выбарчага права.

Аб гэтым таксама сказалі ў сваіх дырэктывах у пачатку кампаніі вышэйшыя кіруючыя органы, чаму ў гэтую перавыбарчую кампанію, хоць нявыстарчальна і ня ўсюды, але ўсё-ж больш менш шырока ўцягнуты былі ўляршыню ў справу выяўленьня і складаньня сьпісаў «пазбаўленцаў» камсамольскія арганізацыі, сходы беднаты, актыву і іншыя ячэйкі мясцовай савецкай грамадзкасьці.

Вынікі нядаўна сконачанай перавыбарчай кампаніі паказваюць, што праца ў напрамку выяўленьчя асоб, якіх трэба пазбавіць выбарчых правоў, праведзена на гэты раз значна лепш, чым у мінулыя кампаніі, і за кошт большага выяўленьня галоўным чынам кулацкіх элемэнтаў на вёсцы і гандлярскіх ў горадзе, а таксама за кошт утрыманцаў пазбаўленых, агульны лік і процант пазбаўленых да ўсяго дарослага насельніцтва (старэй 18-ці год) павялічываўся па ўсіх катэгорыях саветаў; па с/саветах—з 1,4 проц., да 1,8 проц., па местачковых саветах—з 14 проц. да да 14,8 проц. і па неакруговых гарсаветах з 12,8 проц. да 13,9 проц. Прыведзеныя лічбы і параўнаньне іх з лічбамі мінулай кампаніі паказваюць, што ў вагуле процант пазбаўленых выбарчых правоў адпавядае сацыяльнаму складу насельніцтва БССР. Нязначна адрозьніваецца ад сярэдня рэспубліканскага і процант пазбаўленых па асобых акругах.

Поруч з гэтым, што належыць да нізавых сельскіх і местачковых, а ў некаторай ступені і раённых выбарчых камісій, то тут часам наглядаліся выпадкі грубых парушэньняў выбарчага законадаўства, праўда, у большай частцы своечасна папраўленыя пры праглядзе і зацьверджаньні сьпісаў раённымі выбарчымі камісіямі і часткова пры разглядзе скарг на пазбаўленьне выбарчых правоў раённымі, акруговымі і цэнтральнай выбарчымі камісіямі. Так, па Уваравіцкім раёне Гомельскай акругі былі выпадкі пазбаўленьня выбарчых правоў патраўшчыкаў, у Аршанскім раёне быў пазбаўлен выбарчага права батрак і не пазбаўлен яго гаспадар—былы абшарнік, у Каралінскім раёне Мазырскай акр. (Бягучанскі с/с) 16 грамадзян было пазбаўлена за рэлігійныя погляды, у Цэрахоўскім раёне Гомельскай акругі былі выпадкі пазбаўленьня атрымліваючых матар'яльную дапамогу ад родзічаў з Амэрыкі.

Наяўнасьць і выпраўленьне падобнага роду памылак у абагуленым выглядзе можна характарызаваць наступнымі прыкладамі: па Магілеўскай акрузе, як няправільна ўнесеныя ў сьпіскі пазбаўленых, былі выключаны раённымі выбарчымі камісіямі па Крычаўскім раёне 5 чал., па Чавускім—23, па с/саветах і 43 па гарсавету, па Быхаўскім—16, па Чачэвіцкім—13, па Клімавіцкім—27, па Журавіцкім—3. Па Мазырскай акрузе раённымі выбарчымі камісіямі адменена 235 пастаноў сельскіх, местачков. і неакруговых гарадзкіх выбарчых камісій аб пазбаўленьні і аднаўлені ў выбарчых правох. Па Гомельскай акрузе выключана пры зацьверджаньні сьпісаў па Лоеўскім раёне—30 чал., па Брагінскім—25, па Камарынскім—3, па Чачэрскім—36, па Веткаўскім 127, Па Гомельскім—57, па Будакашалеўскім—6 і па Цэрахоўскім—22 чал. Па Віцебскай акрузе выключана ў Суражскім раёне—21 чал., у Бешанковіцкім—9, Гарадоцкім—6. Па Бабруйскай акрузе выключана ў Любаньскім раёне—2, ў Бабруйскім—1 і Старадароскім—2. З другога боку пры праверцы сьпісаў даваліся паказаньні аб даўнясеньні прапушчаных асоб. Напрыклад, па Мазырскай акрузе запрапанавана даўнесьці 55 чалавек. У магілеўскай акр. даўнесена раённымі выбарчымі камісіямі і па іх прапановах па Клічаўскім раёне 10 чал., па Хоцімскім—20, па Клімавіцкім—170. Па Гомельскай акр. даўнесена па Лоеўскім раёне—1, па Брагінскім—25, па Камарынскім—7, Чачэрскім 6, Веткаўскім—15, Гомельскім—12, Цэрахаўскім 19. Па Бабруйскай акр. даўнесена па Бабруйскім раёне—2 чал. па Старадароскім—35.

Аднак ня ўсюды досыць уважліва і ў належнай меры гэтая праверка была праведзена ў пачатку кампаніі, у выніку чаго ў некаторых раёнах яшчэ засталіся нявыпраўленымі шэраг памылак. Аб гэтым, напрыклад, сьведчаць лічбы ненармальнага павялічэньня, або паменшэньня колькасьці асоб пазбаўленых выбарчых правоў па асобных раёнах. Напрыклад у

---

не якіх зьвязана з вялікімі выдаткамі, новымі асыгнаваньнямі, датацыямі і г. д., чаго нельга зрабіць пасьля зацьверджаньня бюджэту.

Пастановы павінны ня толькі канстатаваць розныя недахопы, але і ўмела паказаць—як паставіць справу, каб зьнішчыць гэтыя недахопы, як рацыяналізаваць справу і спрасьціць сыстэму працы. За выкананьнем прынятых пастаноў трэба ўстанавіць сыстэматычны кантроль. Кантроль трэба пачаць з таго, што новая сэкцыя праверыць ступень выкананьня пастаноў сэкцыі ранейшага складу (да гэтага часу сэкцыя РСІ існавала таксама, але не як абавязковая і ня ўсюды), даб'ецца поўнага іх выкананьня і будзе гэту лінію няўхільна праводзіць у адносінах да сваіх пастаноў.

Сэкцыя РСІ павінна быць шчыльна зьвязана з друкам, у якім будзе папулярызавацца яе работа і будуць асьвятляцца яе дасягненьні. Апроч гэтага, сувязь трэба трымаць і дзеля таго, каб сэкцыя РСІ прымала ўдзел у разглядзе тых скаргаў, якія атрымліваюць рэдакцыі газэт.

І ўрэшце, каб сэкцыя вырашыла тыя задачы, якія стаяць перад ёю, яна павінна добра ведаць усіх сваіх членаў, іх здольнасьці і нахільнасьці і, у адпаведнасьці з гэтым, даваць ім тыя ці іншыя даручэньні. Трэба зусім зьнішчыць пасыўнасьць унутры сэкцыі і кожнага члена сэкцыі ўцягнуць у работу і даць яму пэўную нагрузку.

А. Пятосін.

# Саветы ў барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю.

У выніку імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны і бандытызму ў БССР зьявіліся вялікія кадры бяспрытульных дзяцей, якіх неабходна было падабраць з вуліцы і разьмеркаваць па дзіцячых дамох. Голад у Паваложжы 1921 г. гэтыя кадры яшчэ больш папоўніў. Такім чынам, з самага пачатку мірнага будаўніцтва БССР, поплеч з задачамі абароны краіны і гаспадарчага будаўніцтва, прышлося зьвярнуць сур'ёзную ўвагу і выдзеліць многа сродкаў на ліквідацыю дзіцячай бяспрытульнасьці.

Рашучую ролю ў справе ліквідацыі вулічнай дзіцячай бяспрытульнасьці адыгралі і адыгрываюць у сучасны момант дзіцячыя дамы Нар. Кам. Асьветы БССР, сетка якіх з кожным годам пашыралася: з 21 дому ў 1920 г. ростам—да 147 дзіцяч. дамоў у 1925 годзе. У далейшым, у сувязі з гаспадарчым ростам краіны і палепшаньнем матар'яльнага становішча насельніцтва, частка дзяцей была рээвакуіравана на радзіму ў Паваложжа, частка аднана па запатрабаваньню знайшоўшыхся сваякоў і такім чынам сетка дзіцячых дамоў у наступныя гады стала скарачацца.

У сучасны момант у БССР ёсьць 86 дзіцячых дамоў, у якіх знаходзіцца 6070 дзяцей. На ўтрыманьне іх па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах адпушчаецца каля 1.500 тыс. руб., альбо 250 руб. на кожнага выхаванца.

Галоўная задача дзіцячага дому—выхаваць фізычна здаровага падростка, даць яму агульную асьвету і падрыхтаваць да самастойнага працоўнага жыцьця.

Вось чаму вялікая ўвага ў выхаваўчай рабоце дзіцячых дамоў зьвяртаецца на працоўную падрыхтоўку, дзеля чаго пры дзіцячых дамох павінны арганізоўвацца майстэрні. Апошніх ёсьць толькі пры 40 проц. дзіцячых дамоў.

У мэтах найлепшага абслугоўваньня дзяцей розных нацыянальнасьцяй, арганізаваны нацыянальныя дзіцячыя дамы, дзе ўся праца сярод дзяцей праводзіцца на роднай мове. Існуючыя 86 дзіцячых дамоў разьмяркоўваюцца: а) беларускіх—47, б) яўрэйскіх—18, в) польскіх—6, г) латыскіх—1, д) расейскіх—2 і е) зьмешаных—12.

На дапамогу савецкай уладзе ў справе барацьбы з дзіцячай бяспрытульнасьцю прышла шырокая савецкая грамадзкасьць. Толькі дзякуючы яе падтрыманьню, савецкая ўлада змагла дабіцца вялікіх посьпехаў у барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю.

Першапачаткова былі ўтвораны дзіцячыя камісіі пры выканкомах. Трохі пазьней арганізавалася т-ва „Прыхільнік Дзяцей“.

Дзейнасьць дзіцячых камісій і т-ваў „Прыхільнік Дзяцей“ з кожным годам узмацнялася. Так, у 1925-26 годзе дзіцячымі камісіямі і т-вамі „Прыхільнік Дзяцей“ утрымлівалася ўсяго 637 дзяцей, у 1926-27 годзе яны на свае сродкі ўтрымлівалі стала 1320 дзяцей і абслужылі рознымі відамі дапамогі звыш 4000 дзяцей. Здабыта і выдаткавана за гэты год дзіцячымі камісіямі і т-вамі „Прыхільнік Дзяцей“ 511 тыс. руб., што складае каля 35 проц. сум, зрасходаваных на барацьбу з дзіцячай бяспрытульнасьцю дзяржавай.

У 1927-28 годзе дзіцячымі камісіямі і т-вамі „Прыхільнік Дзяцей“ утрымлівалася 2100 дзяцей, што складае 35 проц. усіх дзяцей, якія ўтрымліваліся на дзяржаўным і мясцовым бюджэце.

Абслужана рознымі відамі дапамогі ў 1927-28 годзе звыш 10.000 дзяцей. Усяго зрасходавана дзіцячымі камісіямі і т-вам „Прыхільнік Дзяцей“ за 1927-28—год—823 тыс. руб. З гэтае сумы акруговымі дзіцячымі камісіямі і т-вамі „Прыхільнік Дзяцей“ здабыта і зрасходавана—416 тыс. руб.

Цэнтральнай і акруговымі дзіцячымі камісіямі і т-вам „Прыхільнік Дзяцей у 1927-28 годзе ўтрымлівалася 22 дзіцячых установы:

| | |
|---|---|
| 3 дзіцячых камуны (з іх адна ўсебеларускага маштабу) . . . | 360 дзяцей. |
| 3 дзіцячых прыёмнікі . | 140 „ |
| Ясьлі для бяспрытульных дзяцей . . | 205 коек. |
| 4 клюбы-сталоўкі для бяспрытульных дзяцей . | 740 дзяцей. |
| Дзіцячы ачаг . . | 40 „ |
| 7 майстэрняў (з іх: шавецкіх — 3, трыкатажная—1, сьлясарная—1, сталярна-абойная—1, пераплётная—1) . | 405 „ |
| Інтэрнат для вучняў-бронь з бяспрытульных | 45 „ |

Такая-ж сетка дзіцячых установ ёсьць і ў 1928-29 годзе.

Таварыства „Прыхільнік Дзяцей“ у некаторых акругах, як Віцебскай, Гомельскай і Менскай · настолькі ўзмацнілася, што дзіцячыя камісіі пры акрвыканкомах ліквідаваны. Такі-ж напрамак узяты і ў астатніх акругах.

У мэтах узмацненьня дзейнасьці т-ва „Прыхільнік Дзяцей“, прыцягненьня да практычнае работы т-ва членаў прафсаюзаў, працоўных жанчын, камсамольскіх і піянэрскіх арганізацый, адшуканьня сродкаў на барацьбу з дзіцячай бяспрытульнасьцю, утварэньня грамадзкай думкі навокал дзіцячых дамоў і інш. з 15-га жніўня па верасьня 1928 г. у БССР быў праведзены месячнік дапамогі бяспрытульным дзецям. У часе гэтага месячніка на прадпрыёмствах, установах, у вёсках былі праведзены сходы з дакладамі аб барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю. Былі арганізаваны ў некаторых гарадох выстаўкі вырабаў дзіцячых дамоў, наведваньне якіх было вялікае (напр., у Менску за два тыдні наведала звыш 15 тыс. чал.). За час месячніка падабрана з вуліц і накіравана ў дзіцячыя ўстановы звыш 500 бяспрытульных дзяцей.

У выніку праведзенай работы т-ва „Прыхільнік Дзяцей“ яшчэ больш узмацнілася, павялічыўшы колькасьць сваіх членаў і ячэк. У сучасны момант т-ва „Прыхільнік Дзяцей“ налічвае ў БССР 25.000 членаў і 370 ячэек.

Ня гледзячы на значныя дасягненьні, якія мы маем у галіне барацьбы з дзіцячай бяспрытульнасьцю ў гэтай рабоце маецца яшчэ вельмі значныя цяжкасьці.

Асноўным пастаўшчыком дзіцячай бяспрытульнасьці ў сучасны момант зьяўляецца вёска і мястэчка. Дзякуючы аграрнаму перанасяленьню, цяжкаму матар'яльнаму становішчу некаторых груп беднаты, слабаму культабслугоўваньню дзяцей, падросткі, не знаходзячы прымяненьня сваім сілам, ідуць у горад і пападаюць у шэраг бяспрытульных дзяцей.

У галіне барацьбы з дзіцячай бяспрытульнасьцю таксама стаяць вялізарныя задачы па палепшаньню якасьці гэтай работы, асабліва па палепшаньню становішча дзіцячых дамоў, арганізацыі працоўнага выхаваньня ў іх, наладжаньня работы па папярэджаньню бяспрытульнасьці і г. д.

Мы даб'ёмся посьпехаў у гэтай рабоце, калі саветы і выканкомы БССР павядуць плянавую і сыстэматычную работу па барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю і ўзмацняць свае кіраўніцтва арганізацыямі, якія дапамагаюць дзяржаве ў змаганьні з дзіцячай бяспрытульнасьцю.

Матар'ялы, якія маюцца ў Цэнтр. Дзіцяч. Камісіі сьведчаць, што не-

каторыя саветы і выканкомы праводзяць зусім слабую работу ў барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю. Так, напр., у 14 вярстох ад Шклоўскага РВК, на тэрыторыі Каменна-Лоўскага с.-с., знаходзіцца Барсукоўская дзіцячая камуна з 40 выхаванцамі. Кіраўнікі камуны, у якой ёсьць амаль новыя будынкі, так безгаспадарча і злачынна кіравалі гаспадаркаю, што давялі яе да поўнага развалу. Дзеці—голыя і босыя; пасьцельнай бялізны зусім няма і дзеці выглядаюць як камінары; ня было ўмывальніка, лазьняй не карыстаюцца з-за адсутнасьці дроў і вады, а таксама бялізны для зьмены. Адсутнічае амаль поўнасьцю абмундыраваньне і абутак. Дзеці сьпяць некаторыя па двое, а некаторыя каля жалезнай печы, сумесна з цялятамі, якіх трымаюць у інтэрнаце з-за халоду ў хлеве. Падлога за зіму ня мылася ні разу. Хлеб дзеці атрымоўваюць сыры, замёрзлы так, што каб яго зьесьці, выхаванцы распільваюць пілкай і адаграваюць на печцы. Ня гледзячы, што камуна знаходзіцца ў 2-х вярстох ад лесу, камунай спалена агарожа і некалькі дзьвярэй ад інтэрнату. Зжаты авёс у колькасьці 34 вазоў, застаўся зімаваць на полі і ім зімой палілі печ, а частка згніла. Ніякай справаздачнасьці і вучоту ў камуне не вялося. Яшчэ можна было-б дапоўніць фактамі безгаспадарчасьці, але і прыведзеных даволі. Ужо ня прыходзіцца гаварыць аб пастаноўцы выхаваўчай работы і фактах біцьця выхаванцаў.

Што рабілі мясцовыя органы ўлады, прадстаўнікі якой, часамі, і бывалі ў камуне. Яны прынялі некаторыя меры толькі пасьля абсьледаваньня камуны прадстаўніком акруговай Дзіцячай Камісіі, а дагэтуль нічога не зрабілі. Гэтыя факты сьведчаць аб слабай увазе да жыцьця дзіцячых установ з боку мясцовых органаў. Трэба зрабіць паказальны судовы працэс над быв. служачымі камуны. Слабы нагляд за жыцьцём дзіцячых дамоў з боку саветаў і выканкомаў ёсьць і ў іншых мясцох.

Неабходна да справы змаганьня з дзіцячай бяспрытульнасьцю ў вёсцы шырэй прыцягнуць грамадзкія арганізацыі, камітэты сялянскай узаемадапамогі, т-вы „Прыхільнік Дзяцей", якія павінны быць арганізаваны ў кожным с.-савеце і ў буйных вёсках, каапэрацыю і інш., гарадзкія і сельскія саветы, раённыя і акруговыя выканаўчыя камітэты, павінны стала і сыстэматычна праводзіць кіраўніцтва справай барацьбы з дзіцячай бяспрытульнасьцю, ставіць гэтае пытаньне на абгаварэньне пленумаў і прэзыдыумаў і своечасова прымаць меры да зьнішчэньня ўсіх ненармальных зьявішч у галіне змаганьня з дзіцячай бяспрытульнасьцю.

**К. Мурашкевіч.**

# Агляд пастаноў па пытаньнях савецкага будаўніцтва.

## За красавік м-ц 1929г.

1. ЦВК БССР VIII-га склíканьня на III-й сэсіі па дакладу аб масавай рабоце саветаў даручыў Прэзыдыуму ЦВК усямерна павышаць палітычна-культурны ўзровень і кваліфікацыю работнікаў нізавых саветаў і выканаўчых камітэтаў шляхам падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі іх у вышэйшых навучальных установах, на спэцыяльных курсах, гуртках і г. д. У выкананьне гэтае пастановы Прэзыдыум ЦВК пастанавіў 4-га красавіка: 1) Арганізаваць па ўсіх сельскіх і местачковых саветах трохдзённыя нарады-курсы для дакладнага азнаямленьня ўсіх членаў саветаў новага складу з пытаньнямі савецкага будаўніцтва і для інструктаваньня іх; 2) з тэй жа мэтай арганізаваць і правесьці пры раёнах каротка-тэрміновыя нарады-курсы старшынь і сакратароў саветаў. Гэтыя курсы-нарады прапанована правесьці ў красавіку месяцы. Апрача гэтага, Прэзыдыум ЦВК палічыў мэтазгодным арганізаваць акруговыя і раённыя курсы старшынь і сакратароў сельскіх саветаў; тэрмін правядзеньня гэтых курсаў будзе ўстаноўлены па ўзгадненьні з АВК.

2. У дадатак да сваёй пастановы ад 2 красавіка 1929 году пра падпарадкаваньне Слуцкага, Рэчыцкага і Клімавіцкага гарадзкіх саветаў адпаведным раённым выканаўчым камітэтам, Прэзыдыум ЦВК 6-га красавіка прыняў пастаноў аб падпарадкаваньні таксама і Барысаўскага гарсавету Барысаўскаму РВК.

3. 6-га красавіка Прэзыдыум ЦВК вызначыў на 1929 год наступныя нормы прадстаўніцтва ад гарсаветаў акруговых гарадоў на акруговыя зьезды саветаў: 1) ад Аршанскага і Мазырскага — 1 дэлегат ад 200 выбаршчыкаў і ад Бабруйскага, Магілеўскага і Полацкага—1 дэлегат ад 300 выбаршчыкаў. Нормы прадстаўніцтва ад астатніх акруговых гарадоў пакінуты бяз зьмен (1 дэпутат ад 500 выбаршчыкаў, згодна арт. 57 Канстытуцыі БССР).

4. Дзеля большага прадстаўніцтва рабочых на IX Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў, Прэзыдыум ЦВК, на падставе новых зьвестак аб колькасьці насельніцтва, 6-га красавіка пастанавіў павялічыць колькасьць дэлегатаў на Зьезд на 30 асоб, разьмеркаваўшы іх сярод акруг так: Менскай, Віцебскай і Гомельскай акругам—па 5 дэлегатаў і астатнім акругам—па 3 дэлегаты звыш тых норм, якія былі вызначаны раней.

5. Дзеля ўзмацненьня калектыўнай дзейнасьці сельскіх саветаў і большага ўцягненьня іх членаў у непасрэдна кіруючую работу саветаў, Прэзыдыум ЦВК 27 красавіка пастанавіў павялічыць склад прэзыдыумаў сельскіх саветаў з 3-х да 5-ці членаў, прапанаваўшы АВК і РВК ў месячны тэрмін склікаць чарговыя пленумы сельскіх саветаў для ажыцьцяўленьня гэтае пастановы.

6. Дзеля замацаваньня актыўнасьці мас, якая выявілася ў часе перавыбараў саветаў, у штодзённай працы саветаў, Прэзыдыум ЦВК 27 красавіка спэцыяльным абежнікам прапанаваў ўсім акруговым і раённым выканаўчым камітэтам: 1) для наладжваньня працы саветаў і арганізацыі камісій пры іх прымацаваць да саветаў на некаторы час па работніку раёну, або акругі; 2) забясьпечыць курсы-нарады для нізавых работнікаў адпаведным падборам кіраўнікоў; 3) нагрузіць кожнага члена савету канкрэтнай практычнай працай і выключную ўвагу зьвярнуць на членаў саветаў—батракоў, уцягнуўшы іх ў працу саветаў па ахове інтарэсаў батрацтва, сельска-гаспадарчых рабочых і беднаты і прыняўшы меры да падняцьця кваліфікацыі гэтай катэгорыі членаў саветаў; 4) наладзіць сталую сувязь членаў саветаў з выбаршчыкамі.

**А. П.**

Друкарня БДВ. Галоўлітбел № 302.